PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 19 (2243) Год XLIV Беласток 9 мая 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Супраць падзелаў

Ганна Кандрацюк

**— Мы не хочам, каб гімназіяй, дзе будуць вучыцца нашы дзеці, кіраваў катэхет. Гэта ж чалавек з акрэсленым светапоглядам. Ды на дадатак ён два гады раней праваліўся ў конкурсе на дырэктара школы, — кажа Марак Кутарба, прадстаўнік Рады бацькоў Пачатковай школы н-р 14 у Беластоку.**

26 красавіка г.г. на сесіі Рады горада Беластока пратэставалі бацькі, дзеці якіх вучацца ў ПШ н-р 14, 32 і 22. Ва ўсіх трох выпадках пратэст датычыў назначэння Управай горада новых дырэктараў гімназій без ранейшай кансультацыі з дырэкцыямі і бацькамі.

Вялікія хваляванні выклікала асоба Кшыштафа Альховіка, настаўніка каталіцкай рэлігіі ў Прафесійнай геадэзічна-будаўнічай школе, назначанага дырэктарам гімназіі ў „чатырнаццатцы".

— Яшчэ не пачаў працаваць, а ўжо хацеў падзяліць вучняў на праваслаўных і католікаў, — сказаў радны квартала Новае Места і заадно бацька будучай гімназісткі, Міхал Карповіч. Раней, як сказала сакратарка Яўгенія Бабай, Кшыштаф Альховік папрасіў у яе саставіць спісак вучняў паводле веравызнання.

— Такі спісак мог бы дапамагчы ў распрацоўцы плана заняткаў, — аргументаваў куратар Веслаў Ружаньскі.

Антон Мірановіч, наменнік старшыні Рады горада не пагаджаецца з меркаваннем асветных улад:

— Для плана заняткаў хапіла б інфармацыя пра колькасць вучняў, а не персанальны спісак асоб. Такім чынам пан Альховік парушыў закон.

— Гэта не так, што супраць кандыдата пратэстуюць толькі праваслаўныя, — кажа Марак Кутарба. — Я сам, як католік, выказваюся супраць усялякіх падзелаў. Ідзе пра тое, каб нашы дзеці добра адчувалі сябе ў школе, каб вучыліся ў добрых умовах.

Школа н-р 14 — адна з самых вялікіх у горадзе. Зараз у ёй 2 300 вучняў і 133 настаўнікі. Тут таксама самая вялікая колькасць навучэнцаў праваслаўнай рэлігіі (450 вучняў). Пра добрую атмасферу ў школе найбольш сведчыць факт, што праваслаўныя вучні карыстаюцца вольнымі днямі ў свае гадавыя святы — Вялікдзень і Каляды.

— Антон Дземянчук гэта чалавек сучасны, нейтральны наконт веравызнанняў. А самае важнае, што ён добры кіраўнік і арганізатар школы, — кажа Міхал Карповіч.

Бацькі з ПШ н-р 14 сабралі 1 000 подпісаў (75%) з прапановай, каб будучым дырэктарам гімназіі па сумяшчальніцтву быў Антон Дземянчук, які, дарэчы, выйграў конкурс на пост дырэктара школы да 2002 года.

— На пераходны перыяд рэформы асветы лепш, каб правіў адзін гаспа-

[працяг ☞ 2]



Калектыў з Дабрывады.

**Іх песні гэта золата, сказаў вядомы беластоцкі музыколаг Ежы Сьрудкоўскі**

# Свята ў Кляшчэлях

Ада Чачуга

Дому культуры, ці, як цяпер тут кажуць, „эмгоку" не пашанцавала ў гарадскіх двухтысячных Кляшчэлях так, як школе — сучаснай, прасторнай, з чырвонай клінкернай цэглы, а да таго з асобна дабудаванай спартыўнай залай.

Асяродак культуры месціцца ў трох пакоях над рамізай, адзін з іх — крыху большы. 24 красавіка тут адкрылася выстаўка разьбяроў-аматараў з Кляшчэлеўскай гміны: Славаміра Смыка, Міхала Маркевіча, Ільі Зіневіча. І тут жа адбыўся з'езд Таварыства прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі на чале з д-рам Васілём Крупічам, выкладчыкам Беластоцкай палітэхнікі.

Што ж, калі нейкую большую імпрэзу арганізаваць тут немагчыма. Дзякуй Богу, што ні гарадскія, ні школьныя ўлады не маюць нічога супроць, каб рабіць іх у паркетнай глядзельнай зале са сцэнай, бо і такая ёсць у падставовай школе, пабудаванай у 1996 годзе, а на адкрыцці яе прысутнічаў тадышні прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч.

Сённяшняя нагода для М-ГОКаўскай урачыстасці ў школе: мастацкі калектыў з Дабрывады адзначае сваё 30-годдзе, а калектыў „Каліна" з Дашоў — 20-годдзе. Юбілей вядомых мастацкіх калектываў з Кляшчэлеўскай гміны якраз святкуецца ў гэтай цудоўнай школе.

Здаецца, усе мясцовыя ўлады на чале з бурмістрам Аляксандрам Сяліцкім, радным сейміка Падляшскага ваяводства, прысутныя тут. Прыехаў Эдмунд Сухадольскі, наменнік старшыні сейміка і прадстаўнік маршалка, таксама — дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Анджэй Дырдал, які таксама кіруе калектывам „Курпі Зялёныя", старшыня ГП БГКТ і пасол Ян Сычэўскі ды сакратар Валянціна Ласкевіч, ёсць і Вольга Рыгаровіч — старшыня рады Гайнаўскага павета і войт Гайнаўскай гміны ды войт гміны Дубічы-Царкоўныя Анатолій Паўлоўскі, музычныя кіраўнікі Сцяпан Копа, Міхась Артысевіч. Янка Крупа прыслаў ліст: „Калісь з Кляшчэляў да Дашоў я хадзіў пяшком, а цяпер не даеду аўтобусам..."

Жанчыны з Дабрывады ўспамінаюць: „Так, найбольш з намі працавалі інструктар Беларускага таварыства Янка Крупа і Славік Місеюк, які тады быў дырэктарам ГОКа і музычным кіраўніком. Яшчэ памагаў нам Міхась Вішанка, якога мы самі запрасілі".

Заснавальніцамі дабрывадскага калектыву трыццаць гадоў таму былі Ліля Сасноўская з СКРа і Варвара Ліпінская з Гуртка вясковых гаспадынь, кажуць мне жанчыны скромна, але думаю, што сапраўднымі гераінямі былі яны самі, першапачынальніцы.

Да сёння ў калектыве засталося іх пяцёра: Валянціна Клімовіч — кіраўнік калектыву, Варвара Ліпінская, Антаніна Сідарук, Ніна Яўдосюк, Антаніна Ліпінская. Замянілі адышоўшых з калектыву Паўліна Саўчук, Варвара Якімюк і Міраслава ды Міхась Зіневічы.

На працягу трыццаці гадоў жанчыны з Дабрывады спявалі свае, аўтэнтычныя народныя песні. Знаходзілі штораз іншыя, успаміналі тое, што спявалі іх бацькі і бабулі. Такое багацце песеннага фальклору ў гэтай ваколіцы! **Іх песні гэта золата**, сказаў вядомы беластоцкі музыколаг Ежы Сьрудкоўскі. І мае рацыю. Вось паслухайце хаця б, як спявае Антаніна Сідарук старадаў-

[працяг ☞ 8]

## Жахлівая ноч

Людзі ў Тымянцы ідуць спаць рана, дык у пятніцу (16 красавіка г.г.) пасля адзінаццаці ночы ў вёсцы была поўная цішыня. Калі Лідзія Ключэк учула трэск і стук, устала. Убачыла, што загараецца яе клуня.

[драма ☞ 3]

## Будзе многа беспрацоўных

У Арлянскай гміне зарэгістравалася 219 беспрацоўных, у ліку якіх толькі 33 асобы атрымоўваюць фінансавую дапамогу па беспрацоўі. Найбольш беспрацоўных наглядаецца ва ўзроставай групе 18-34 гадоў. Сярод тых, якія страцілі працу, найбольш прадаўцоў, будаўнікоў і механікаў.

[шырэй ☞ 3]

## Адкрыты ліст Хведара Галёнкі

Хведар Галёнка, член Прэзідыума ГП БГКТ, выслаў адкрыты ліст галоўнаму рэдактару штодзёнкі „Gazeta Wyborcza", у якім палемізуе з інтэрв'ю, дадзеным ім беларускаму журналісту Мікалаю Халезіну. Аўтар ліста абураецца на рэдактара Міхніка з прычыны ягоных непрыхільных выказванняў у адрас Беларусі і прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.

[болей ☞ 4]

## Развітанне з Рыгорам Байко

Быў маляўнічай, арыгінальнай асобай у Белавежы. Невялікага росту, з сівымі, густымі валасамі і барадой, ужо сваім выглядам прыцягваў увагу. Час ад часу хтосьці прыкмячаў: „Ён, быццам з рускай народнай казкі выняты!"

[успамін ☞ 8]

## А што гэто за баседа...

— Ну, вяселле, то хоць тры дні. Субота — каравай, у нядзелю — вяселле, у панядзелак — ехалі да маладога, — пералічвае Надзя, — праўда ці не. А калісь, то, пэўна, і больш гасцявалі...

[традыцыя ☞ 9]

## Жаль, бо адыходзяць

Здараецца, што пасля адной размовы дамаўляюся з героем артыкула на далейшыя гутаркі. Праходзіць нейкі час і аказваецца, што майго ранейшага субяседніка ўжо няма ў жывых.

[рэфлексія ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Кроў на плошчы Леніна

Несанкцыянаванае ўладамі шэсце моладзі ў Гродне скончылася жорсткай сутычкай з міліцыяй.

Вечарам 25 красавіка каля сарака маладых хлопцаў, згуртаваўшыся ў калону прайшлі па цэнтральнай вуліцы Гродна. Удзельнікі шэсця былі апрануты ў адмысловую камуфляжную форму, у руках трымалі запаленыя паходні. Над калонай луналі тры бел-чырвона-белыя сцягі. Такое відовішча прыцягнула ўвагу шматлікіх прахожых і міліцыянераў. Але, калі першыя рушылі ўслед за хлопцамі, дык другія адразу спрабавалі спыніць шэсце. Але нешматлікім міліцэйскім нарадам гэтага зрабіць не ўдалося. Яны сутыкнуліся з надзвычай арганізаванай сілай і не маглі падступіцца да атрада юнакоў, якія мелі на берэтах кукарды з „Пагоняй”. Толькі, калі міліцыянераў стала больш чым удзельнікаў шэсця, яны кінуліся ў рашучую атаку. Аднак, згрупаваўшыся ў кола, хлопцы паспяхова адбіваліся ад нападаўшых пылаючымі паходнямі. Так яны здолелі прайсці яшчэ некалькі сотэнь метраў. Міліцыянтам не дапамагалі ні дубінкі, ні слёзатачывы газ. Раз’юшаныя ад бяссілля „ахоўнікі правапарадку” накіравалі на хлопцаў міліцэйскую машыну. Так яны здолелі парушыць згуртаванае кола.

На плошчы Леніна, каля будынка аблвыканкама пачалася крывавая бойка. Юнакі адчайна абараняліся, але сілы былі няроўныя. Супраць сарака чалавек, частка з якіх былі непаўналетнімі, выступілі не толькі звычайныя міліцыянеры, а і натрэніраваныя амапаўцы і спецназаўцы. Яны спрабавалі завалодаць бел-чырвона-белымі сцягамі. У адзін з момантаў бойкі, калі сцяг ужо амаль апынуўся ў руках амапаўца, нацыянальны сімвал беларусаў падхапіў вядомы бард Андрэй Мельнікаў, які тымі днямі гасцяваў у Гродне і выпадкова стаў сведкам падзей. Спявак здолеў перадаць сцяг хлопцам, за што адразу атрымаў некалькі ўдараў гумовай палкай. Другі сцяг вынес на сабе 18-гадовы юнак. Ён прыехаў у Гродна з Мінска спецыяльна для ўдзелу ў акцыі. У байцы яму зламалі руку, разбілі дубінкай твар. Акрываўленага, атручанага газам хлопца выратавалі дзве невядомыя гродзенскія дзяўчыны. Яны яго пераапранулі, абмылі кроў, схавалі сцяг і давялі да тэлефона, каб ён змог звязацца з гродзенскімі сябрамі. Аднак адно бел-чырвона-белае палотнішча ўсё ж патрапіла ў рукі міліцыянераў. Здолелі яны затрымаць і трынаццаць удзельнікаў шэсця. Разам з імі патрапіў у пастарунак адзін выпадковы прахожы. Па дарозе ў аддзел унутраных спраў, ужо безабаронных хлопцаў, працягвалі збіваць. Некаторым дасталася і ў пастарунку. Адтуль траіх затрыманых забрала ў шпіталь „хуткая дапамога”. Дваіх неўзабаве вярнулі ў міліцыю, а 19-гадовы юнак застаўся ў траўматалагічным аддзяленні бальніцы. Яму міліцэйскі бот зламаў нос, і хлопец праляжыць у ложку не менш паўтара тыдня.

Але дасталася і міліцыянерам. Па неафіцыйных звестках, у аднаго з іх зламаная сківіца, у другога — сутрасенне мазгоў. Усяго цялесныя пашкоджанні атрымалі сямёра „ахоўнікаў правапарадку”.

Чатыры непаўналетнія ўдзельнікі шэсця былі адпраўлены ў прыёмнік-размеркавальнік, адкуль былі перададзены бацькам. 26 красавіка над астатнімі затрыманымі адбыўся суд. Выпадковаму прахожаму далі штраф у адзін мільён рублёў. Удзельнікаў несанкцыянаванай акцыі прыгаварылі да арышту на тэрмін ад двух да пяці сутак. Магчыма, такія адносна невялікія пакаранні звязаны з тым, што міліцыянеры самі зразумелі неадэкватнасць сваіх дзеянняў з парушэннем закону з боку моладзі.

На месцы бойкі засталося некалькі лужын крыві. На наступны дзень пасля падзей там з’явіліся кветкі і бел-чырвона-белыя сцяжкі.

**Зміцер Кісель**

## Слуханні ў Радзе Еўропы

28 красавіка ў Беларусь вярнулася са Страсбурга дэлегацыя «нацыянальнага сходу». Сябры дэлегацыі бралі ўдзел у слуханнях па Беларусі, наладжаных у межах сесіі Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы.

На слуханнях адбылася дыскусія паміж прадстаўнікамі «нацыянальнага сходу» і Вярхоўнага Савета. Дэлегацыя на чале з віцэ-спікерам «палаты прадстаўнікоў» Уладзімірам Канаплёвым адзначыла, што дэбаты былі карысныя, але канстатавала, што стаўленне Рады Еўропы да Беларусі не змянілася.

29 красавіка сябры дэлегацыі «нацыянальнага сходу» наладзілі прэс-канфэрэнцыю, каб распавесці пра свае дыпламатычныя перамогі. (...)

Паводле Канаплёва, ініцыятыва слуханняў па Беларусі з удзелам прадстаўнікоў «нацыянальнага сходу» і Вярхоўнага Савета сыходзіла ад Рады Еўропы. У гэтай арганізацыі змянілася кіраўніцтва, і новае начальства вырашыла вярнуцца да ацэнкі сітуацыі ў краіне. І ў размовах з кіраўнікамі Рады Еўропы, і падчас публічных дэбатаў на пасяджэнні Палітычнага камітэта Парламенцкай Асамблеі сп. Канаплёў і ягоныя паплечнікі выкладалі пазіцыю афіцыйных улад Беларусі: вынікі рэферэндуму 1996 года не падлягаюць перагляду, палітзняволеных у Беларусі няма — толькі крымінальнікі, у дачыненні да дэпутатаў Вярхоўнага Савета ніякія рэпрэсіі не ўжываюцца.

Падчас слуханняў узнімалася пытанне і аб стане польскай меншасці ў Беларусі, у прыватнасці аб судовым пакаранні лідэра Саюза палякаў Беларусі Тадэвуша Гавіна. На гэта дэлегацыя на чале з Канаплёвым заявіла, што сп. Гавін быў пакараны цалкам правільна, бо «заклікаў да стварэння польскай аўтаноміі, што недапушчальна для унітарнай краіны».

Але тэзы, выкладзеныя прадстаўнікамі «нацыянальнага сходу», рашуча аспрэчваліся іхнымі апанентамі з дэлегацыі Вярхоўнага Савета. Асаблівае раздражненне Канаплёва і ягоных калег выклікалі выступы Анатоля Лябедзькі. Для характарыстыкі іх сябры дэлегацыі «нацыянальнага сходу» не шкадавалі эпітэтаў — «ілжывыя, кантацыйныя, правакацыйныя». Але сп. Канаплёў прызнаў, што большасць сяброў Палітычнага камітэта была на баку Вярхоўнага Савета. Асабліва непрыемныя пытанні задавалі дэпутаты ад Украіны Аляксандар Емец і ад Польшчы Мар’ян Кшаклеўскі. На карысць Лукашэнкавых дэпутатаў выступалі і задавалі пытанні толькі прадстаўнікі Расіі.

Тым не менш сябры «нацыянальнага сходу» казалі на прэс-канфэрэнцыі, што засталіся задаволеныя і размовамі, і дыскусіяй, што адбылася ў Страсбургу. На думку Канаплёва, Еўропу ўжо не цікавіць ані канстытуцыйны рэфэрэндум 1996 году, ані альтэрнатыўныя выбары прэзідэнта, прызначаныя на 16 травеня. Паводле віцэ-спікера «палаты прадстаўнікоў», ёсць зацікаўленасць з боку Еўропы ў тым, каб парламенцкія выбары ў «палату прадстаўнікоў» у 2000 годзе прайшлі паводле еўрапейскіх стандартаў.

Я спытаўся ў сп. Канаплёва: які ж быў вынік візіту дэлегацыі «нацыянальнага сходу», ці наблізіў ён час уступлення Беларусі ў Раду Еўропы? На гэта кіраўнік дэлегацыі адказаў, што Рада Еўропы застаецца пры сваім меркаванні і захоўвае ранейшую пазіцыю. У святле такога адказу радасць сяброў дэлегацыі выглядае даволі дзіўнай. Як бачым, іхныя аргументы і доказы не зрабілі на прадстаўнікаў Рады Еўропы ніякага ўражання. Можа, радасць была выкліканая толькі тым, што давялося з’ездзіць у Еўропу — не вельмі ж часта даводзіцца.

Дарэчы, таксама 29 красавіка прэс-канферэнцыю па выніках візіту ў Страсбург правёў Анатоль Лябедзька. Ён сказаў, што каманда Канаплёва не столькі перашкаджала, колькі дапамагала дэлегацыі Вярхоўнага Савета, за што ён, Лябедзька, хоча накіраваць падзяку прэзідэнту. Паводле Лябедзькі, калі прадстаўнікі «нацыянальнага сходу» заявілі, што «славянам няма дзе разгарнуцца ў Еўропе», што «ядзерную зброю дарма вывезлі з Беларусі» і да т.п., еўрапейцам ужо ўсё было зразумела.

**Юры Дракахруст**, Мінск
**Радыё Свабода**
*(http://www.rferl.org/bd/be/belarus)*

## Спевы ў вясновым лесе

24 красавіка гродзенскія філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і Фонду імя Льва Сапегі арганізавалі паездку моладзі ў Гудзевічы.

Пасля шматгадзіннай экскурсіі па знакамітым літаратурна-краязнаўчым музеі хлопцы і дзяўчаты выехалі ў лес. Там іх чакала вогнішча і смажаныя каўбаскі. Падмацаваўшыся, удзельнікі паездкі размеркаваліся на лясной палянцы, каб паслухаць песні ў выкананні сваіх сяброў. Для некаторых з іх гэта было першае выступленне перад публікай. Але ўсе выканаўцы былі адораны апладысментамі і падарункамі. Напрыканцы імпрэзы выступіў вядомы бард Адрэй Мельнікаў, які быў запрошаны на мерапрыемства ў якасці ганаровага госця. **(зк)**

## Супраць падзелаў

[1 ☞ працяг]
дар, — кажа Міхал Карповіч. — Гэта зэканоміць грошы і забяспечыць арганізацыйны парадак у школе. А так невядома хто будзе адказны за унітазы, а хто за батарэі? За два гады ў квартале Новае Места стане новы школьны будынак. І таму лепш пачакаць са зменамі, — пераканаўча заяўляюць мае субяседнікі.

Усё-такі варта адзначыць, што комплексамі школ н-р 31, 42 і 45 (пачатковая школа + гімназія + ліцэй) ды н-р 8 (пачатковая школа + гімназія) дырэктары будуць кіраваць па сумяшчальніцтву.

Паводле Управы горада, Антону Дземянчуку, якога школа ганарыцца самай вялікай у Беластоку калекцыяй лаўрэатаў прадметных конкурсаў, закон не дазваляе быць адначасова дырэктарам гімназіі.

Затое (пасля пратэстаў бацькоў і артыкулаў у прэсе) можа ён прыступіць да конкурсу на гэты пост. Не датычыць гэта кіраўнікоў вышэйпералічаных школьных комплексаў!

**Ганна Кандрацюк**

## Заява прадстаўнікоў грамадскіх і палітычных арганізацый горада Гродна

***(фрагмент)***

У выніку некампетэнтнасці кіраўніцтва эканоміка Беларусі даведзена да катастрафічнага стану. Антыдэмакратычныя дзеянні прэзідэнта шматразова парушылі міжнародныя правы. Каб пазбегнуць адказнасці, Лукашэнка імкнецца ўцягнуць шматпакутную Беларусь у ядзернае супрацьстаянне з усім цывілізаваным светам. Гэта можа прывесці да новай жахлівай трагедыі. Разам са сваімі расейскімі хаўруснікамі, якім засланяе вочы імперская прагнасць, рэжым Лукашэнкі імкнецца знішчыць незалежнасць Беларусі.

На пачатак травеня прызначана падпісанне у Гродне так званай „саюзнай дамовы”. Тое, што гэта можа здарыцца ў нашым горадзе, з’яўляецца звышцынізмам і абразай нашай нацыянальнай годнасці. Менавіта ў Гродне 205 гадоў таму пад дуламі расейскіх пушак адбыўся апошні Сойм Рэчы Паспалітай, які зацвердзіў акупацыю беларускіх земляў Расійскай імперыяй.

Мы лічым, што далучэнне Беларусі да Расіі нясе нашай краіне і ўсяму свету небяспеку фізічнага знішчэння. Ужо неаднаразова з дзяржаўных трыбунаў Мінска і Масквы гучалі словы пра вяртанне на Беларусь ядзернай зброі. Расійская „чырвона-карычневыя” і прэзідэнт Беларусі выступаюць за ваенны саюз з Югаславіяй, які непазбежна паставіць свет на мяжы Трэцяй сусветнай вайны.

Мы лічым, што наш народ дастаткова адпакутаваў у XX стагоддзі, каб у XXI жыць у вольнай без’ядзернай краіне, якая сябруе з суседзямі і не з’яўляецца патэнцыяльным палігонам для ядзерных эксперыментаў. Мы рашуча пратэстуем супраць прыезду ў наш горад расійскіх, беларускіх і югаслаўскіх мілітарыстаў-„інтэграстаў”.

Мы звяртаемся да жыхароў Гродна. Сёння, як ніколі, на вас ляжыць адказнасць за лёс Беларусі і будучыню Еўропы. Не дапусцім, каб Гродна стала месцам пахавання надзей народу на мірнае і заможнае жыццё! Давайце ўсімі магчымымі законнымі сродкамі спынім злачынныя намеры і ўратуем свет ад катастрофы.

**У Тымянцы, што ў Нурэцкай гміне, згарэла 8 клуняў і 3 хлявы**

# Жахлівая ноч

**— Вецер круціў і рваў у розныя бакі і хутка загараліся сухія крытыя саломай клуні, — кажа Уладзімір Бакун, у якога згарэла найбольш — дзве клуні і два хлявы. — З аднаго боку загарэлася клуня, а з другога хлеў і не ведалі мы што гасіць найперш, а трэба было і жывёлу ратаваць.**



*Тое, што засталося з хлявоў Уладзіміра Бакуна.*

Людзі ў Тымянцы ідуць спаць рана, дык у пятніцу (16 красавіка г.г.) пасля адзінаццаці ночы ў вёсцы была поўная цішыня. Калі Лідзія Ключэк учула трэск і стук, устала. Убачыла, што загараецца яе клуня. Дваццаць пяць хвілін на дванаццатую суседзі паведамілі пажарную ахову і пачалі гасіць пажар.

**Будынкі загараліся вокамгненна**

Яшчэ не ўсе вяскоўцы паспелі прыбегчы на месца, дзе гарэлі ўжо і суседнія клуні, як вецер перакінуў агонь праз пяць панадворкаў на іншы крыты саломай будынак.

— Мяне разбудзілі крыкі і трэскі. Спачатку думаў, што тэлевізар іграе, але пасля сцяміў, што нешта дзеецца ў вёсцы. Калі я выбег на вуліцу, стала вядома што гэта пажар, але патушыць яго мы не змаглі, — гаворыць Славамір Чэрняк. — Добра, што трактар паспелі адагнаць у поле, а дзяцей вывезці на машыне на вуліцу. Калі загаралася клуня ў суседа, разам з сямейнікамі выганялі мы жывёлу. Неўзабаве загарэлася наша, але хутка прыбеглі вясковыя пажарнікі і падключыліся да водаправода. Аднак ціск вады быў малы і стрымаць агонь было немагчыма. Нашыя пачалі выкідаць з хаты пасцель і іншыя прадметы.

Людзі, якія сабраліся ў адным месцы, паразбягаліся на ўсе палаючыя панадворкі. Тыя, да якіх набліжаўся пажар, выганялі сваю жывёлу і выносілі маёмасць.

— У нас маці першая ўбачыла пажар. Калі я выбег, пачынала гарэць у суседа Яраслава Страпчука, але пажар вокамгненна распаўсюджваўся. Паспеў я толькі адагнаць на ўзгорак трактар і ўжо загараліся нашы будынкі. Тэмпература была такая, што не мог падысці бліжэй да агню, — расказвае ўсхваляваны Уладзімір Бакун. — З-за дыму і агню каня ледзь выцягнуў, а калі выганялі жывёлу, адна карова абгарэла. Гарэлі ўжо абедзве клуні, палова хлява і тады пажарная машына паявілася. Пажар пайшоў у тры бакі і цяжка было падысці бліжэй. Мяшкі са збожжам і каляска, якія выцягнулі на сярэдзіну панадворка, амаль сплавіліся. Аднак у пажарнікаў ёсць вопыт. Пад'ехалі яны на суседнія панадворкі і пачалі гасіць. Дзякуючы іх ахвярнасці засталіся гараж і дом, а яны ж таксама стаялі непадалёк пажару.

Гасіць пажар прыехала 27 прафесійных і добраахвотных пажарных каманд, але не ўсе мелі адпаведныя машыны і прылады. У пажарнікаў з Сяміхочаў нядаўна забралі пажарную машыну, а хлопцы з Вулькі-Нурэцкай прыбеглі толькі з рыдлёўкамі, але ўсе вельмі ахвярна ратавалі маёмасць.

— Па вуліцы цяжка было праехаць. Усюды бегалі і рыкалі каровы, перапалоханыя агнём і дымам. Паміж імі прабіваліся пажарныя машыны, а людзі бегалі і пераносілі на другі бок дарогі сваю маёмасць, — успамінае са слязамі ў вачах Вера Іванюк. — Разбудзіў мяне трэск, а калі ўбачыла праз акно агонь, не ведала што рабіць, а пасля ніяк не магла знайсці вопратку. Спачатку выбегла я на панадворак, але зараз жа ўспомніла, што яшчэ ж мужа не разбудзіла! Калі прыбеглі ўжо на месца пажару, наша клуня загарэлася, але дым і высокая тэмпература не дазволілі ўжо нічога вынесці. Тады пачалі мы выганяць кароў і паліваць вадою хлеў.

Жахлівыя ўспаміны былі і ў іншых гаспадароў, пацярпелых ад пажару. Многія думалі, што з дымам пойдуць усе дамы і гаспадарчыя будынкі, у бок якіх дзьмуў вельмі моцны вецер. Пажарнікі аднак стрымалі агонь. У пяць гадзін раніцы некаторыя пажарныя машыны пачалі ад'язджаць. Людзі палівалі ўжо толькі тыя месцы, дзе ад жару ўспыхалі яшчэ аганькі.

**Толькі сядай і плач,**

— працягвае расказ Вера Іванюк, — клуня застрахаваная была, але згарэла і збожжа, якое мы там трымалі, і дзве сячкарні, і два электрарухавікі, вага, кабелі, — пералічвае сямідзесяцігадовая жанчына. — А дзе ж мы, старыя, будавацца будзем, хіба ўжо так дажывем...

— Многа збожжа ў засеках згарэла, жыта і мяшанка немалочанымі былі. Усяго мяшкі тры жыта засталося, а конь жа ёсць, 5 кароў, 5 яловак і 11 свіней і ўсё гэта гадаваць трэба, — хвалюецца Уладзімір Бакун. — З дымам пайшло ўсё, што ў дзвюх клунях і двух хлявах было, а ў мяне многа чаго было, бо сам крыху майстраваў: малатарня, касілка, дзве сячкарні, два электрарухавікі, дошкі і іншыя будаўнічыя матэрыялы. Якраз думаў клуню перабудоўваць і ўсе матэрыялы згарэлі, а тыя, якія са страхавальнага аддзела ПЗУ прыходзілі не хочуць паверыць, што столькі ўсяго патрацій. Што ж цяпер купіш за тыя грошы, якія дадуць за страхоўку. Цяпер цана сена такая, што хопіць толькі на летняе кашэнне.

Іншыя таксама пералічвалі свае патраты і наракалі, што не будзе кампенсацыі за гаспадарчыя машыны і прылады, якія згарэлі. Трэба было, аднак, штосьці рабіць і людзі пачалі парадкаваць панадворкі. Суседзі і жыхары суседніх вёсак прывезлі некаторым сена і салому.

**— Хіба нехта падпаліў,**

— кажа Яўгеній Ключэк, які толькі што вярнуўся дамоў з Беларусі, дзе зараз пражывае. Паказвае месца, адкуль загарэлася. — Спецыялісты вырашылі, што ад поля агонь успыхнуў, а электрычнасць у нас ад панадворка. — Тры месяцы таму таксама загарэлася ў нас клуня, але паспелі пагасіць. Некаторыя жыхары два апошнія здарэнні спалучаюць у адно, але не ведаюць, хто мог бы такое зрабіць людзям.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Гайнаўскі бюджэт

Бюджэтная сесія — адна з найважнейшых у кожнай гміне. Радныя вырашаюць тады велічыню даходаў і іх падзел, а гэта заўсёды выклікае найбольш эмоцый. Так было і ў час пасяджэння гарадской рады ў Гайнаўцы 31 сакавіка г.г.

Сёлета даходы гарадскога бюджэту ў Гайнаўцы складаюць амаль 20 мільёнаў 700 тысяч зл., а выдаткі — каля 20 мільёнаў 970 тысяч зл. Бюджэтны дэфіцыт папоўнены будзе мінулагоднімі сродкамі. Найбольш грошай прызначаецца на асвету і выхаванне — звыш 10 мільёнаў зл. і грамадскую апеку — звыш 3 мільёнаў 600 тысяч зл. На культуру і мастацтва ў горадзе радныя адвялі 856 тысяч зл., а на спорт і фізкультуру — 303 тысячы зл.

У час сесіі радныя гаварылі таксама пра рамонт і ўтрыманне дарог на тэрыторыі горада, якіх уласнікамі апрача гарадскіх улад з'яўляюцца яшчэ павятовыя і ваяводскія ўправы.

На 193 дарогі толькі на 25 пакладзены асфальт, а на 33 — санітарная каналізацыя і водаправоды. На дарожныя інвестыцыі ў бюджэце адведзены сродкі большыя, чым на іншыя будовы, а менавіта больш за 800 тысяч зл., калі на ўсе апошнія каля 700 тысяч зл.

У гэтым годзе прадугледжана ліквідацыя некалькіх кацельняў і падключэнне паасобных мікраранёнаў да кацельні прадпрыемства „Фурнэль". Радныя падзялілі таксама бюджэт Гміннай праграмы прафілактыкі і вырашэння алкагольных праблемаў (196 тысяч зл.). Выкарыстоўвацца будзе ён у асноўным для вядзення прафілактыкі сярод моладзі. Частку грошай атрымае клуб непітушчых.

Прадстаўнік управы горада праінфармаваў пра гарадскі гандаль і паслуговую сетку, якія апошнім часам не развіваюцца. Найбольш рэнтабельнымі паслугамі сталі рамонт аўтамашын і цырульніцтва.

Дырэктар Комплексу аховы здароўя ў Гайнаўцы Кшыштаф Вельгус праінфармаваў, што Падляшская каса хворых падпісала чатыры дамовы на лекарскія паслугі: бальнічную, спецыялістычна-амбулаторную, стаматалагічную і падставовай аховы здароўя. У некаторых галінах трэба будзе шукаць ашчаднасцей і паасобныя працаўнікі аховы здароўя, залежна ад рэальнага запатрабавання на лекарскія паслугі могуць быць звольнены. У канцы сакавіка г.г. пачаў працаваць у бальніцы мамограф, але Каса хворых згодна заплаціць толькі за 300 медаглядаў. Дырэктар Кшыштаф Вельгус прапанаваў самаўраду заплаціць за неабходныя матэрыялы, каб можна было б правесці агляды ўсіх жанчын ва ўзросце за сорак гадоў. Радныя на сесіі гэтую прапанову не разглядалі.

**(ам-з)**

# Будзе многа беспрацоўных

13 красавіка ў Орлі адбылася сустрэча на тэму развіцця малых ды сярэдніх прадпрыемстваў і скарачэння беспрацоўя. Арганізатары — Павятовая ўстанова па працаўладкаванні і Гмінная ўправа — запрасілі многіх чыноўнікаў з Бельска-Падляшскага і Беластока. З тэрыторыі гміны прыйшлі толькі два прадпрымальнікі і пад два дзесяткі беспрацоўных.

Кіраўнік Павятовай установы па працаўладкаванні ў Бельску-Падляшскім Казімеж Прус гаварыў пра рэфармаванне вёскі. Паводле яго, колькасць насельніцтва занятага ў сельскай гаспадарцы будзе скарачацца. Цяпер у Польшчы 27% працаздольнага насельніцтва займаецца ў сельскагаспадарчым сектары, а ў Чэхіі — 7%, Венгрыі і краінах заходняй Еўропы — 8%. Пасля ўступлення Польшчы ў Еўрапейскі Саюз 20% занятых у сельскай гаспадарцы будуць вымушаны шукаць іншай работы. У сяляніна будуць тады два выхады: або купіць зямлю ў суседа, або яму прадаць сваю. У даны момант ажыццяўляюцца розныя праграмы з мэтай развіцця малых прадпрыемстваў і падрыхтоўкі новых месц працы для тых, хто будзе вымушаны адысці з сельскай гаспадаркі, паколькі больш складана памяняць месцажыхарства.

У Бельскім павеце беспрацоўныя складаюць 11,6% (3075 чалавек) ад агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва. У Арлянскай гміне зарэгістравалася 219 беспрацоўных (10,9%), у ліку якіх толькі 33 асобы атрымоўваюць фінансавую дапамогу па беспрацоўі. Найбольш беспрацоўных наглядаецца ва ўзроставай групе 18-34 гадоў. Калі ўзяць пад увагу адукацыю, дык найбольш беспрацоўных закончыла прафесійныя школы — 83 (сярэднія — 48, вышэйшыя — 1). Сярод тых, якія страцілі працу, найбольш прадаўцоў — 28, будаўнікоў — 20 і механікаў — 14.

— Бельская ўстанова па працаўладкаванні, — сказаў яе кіраўнік Казімеж Прус, — у гэтым годзе атрымала 1 млн. 350 тыс. зл. на актыўнае процідзеянне росту беспрацоўя. З гэтай сумы найбольш сродкаў адводзіцца на інтэрвенцыйныя работы і ўжо цяпер мы іх расходавалі поўнасцю. Мусім аднак памятаць, што паспяхова вырашыць праблему беспрацоўя можна толькі шляхам стварэння новых месц працы ў выніку развіцця малога і сярэдняга мясцовага прадпрымальніцтва.

Зацікаўленне сустрэчай, а таксама праграмай развіцця прадпрымальніцтва з боку мясцовых прадпрымальнікаў і беспрацоўных было невялікае. Уладальнік транспартнай фірмы „Трансгрот" з Орлі Юрый Шыманскі скардзіўся, што цяжка атрымаць грошы за выкананыя фірмай паслугі. Напрыклад, заказчык паслуг не плаціць па паўгода, а яму самому прыходзіцца браць крэдыт у банку, каб тэрмінова плаціць шафёрам і адводзіць падаткі. Судзіцца з даўжнікам таксама небяспечна, бо можна страціць заказчыка. Беспрацоўныя абвінавачвалі войта ў бяздзейнасці. Напрыклад, зімою можна было прыняць на працу 2-3 беспрацоўных для расчышчвання вуліц, але гміна не зрабіла гэтага.

У Арлянскай гміне пры самаўрадавым кіраванні ўсё хіліцца к заняпаду. Апрача асфальтавання вуліц нічога тут не будуецца, не ствараюцца новыя месцы працы. „Калі не будзе работы і не атрымаем дапамогі, тады пойдзем красці", — кажуць беспрацоўныя.

**Міхал Мінцэвіч**

# Беларуская думка XX стагоддзя

Восенню мінулага года Інстытут славістыкі Польскай акадэміі навук выдаў кніжку *Беларуская думка XX стагоддзя. Філасофія, рэлігія, культура**. Змяшчае яна падборку тэкстаў беларускіх палітыкаў, грамадскіх і рэлігійных дзеячаў, а таксама прыхільнікаў г.зв. краёвасці, якія становуча ставіліся да беларускага нацыянальнага руху. Ідэя стварэння такой анталогіі вельмі слушная, таксама надта прадстаўніча выглядае склад Кансультацыйнай рады, якая, як трэба спадзявацца, брала ўдзел у падборцы аўтараў і твораў. Раду састаўлялі вядомыя аўтарытэты беларускай навукі — Уладзімір Конан і Віталь Скалабан з Мінска, Юры Туронак з Варшавы і Лявон Юрэвіч з Нью-Йорка. Каардынатарам рэдакцыйных прац быў Юры Гарбінскі з Мінска. З гэтага складу відаць, што кніжку рыхтавалі толькі беларусы, хаця выдавалася яна польскай навуковай установай.

Не надта мне зразумелая логіка укладання тэкстаў. Не раскрывае яе таксама ў прадмове Юры Гарбінскі. Першы раздзел „Пракокі нацыянальнай ідэі" змяшчае фрагменты твораў Антона Луцкевіча, Максіма Гарэцкага, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, Мітрафана Доўнар-Запольскага, Язэпа Лёсіка, Аляксандра Цвікевіча, Ігната Канчэўскага, Уладзіміра Самойлы і Якуба Коласа. Невядома, напрыклад, чаму змяшчаецца фрагмент „Западно-русізму" Цвікевіча, які апісаў гэтую ідэю на падставе творчасці Міхала Каяловіча. Каяловіч — стваральнік прарасейскай, але беларускай палітычнай арыентацыі, прадстаўляў светапогляд праваслаўнай большасці жыхароў Беларусі. Праўда, гэтая плынь не дала пачатку незалежніцкім імкненням, але адлюстроўвала рэальны стан беларускай свядомасці.

Невядома таксама, чаму ў такім кантэсце ідэя „краёвасці" прылічваецца да беларускай. Міхал Ромер, Тадэвуш Врублеўскі, Канстанцыя Скірмунт ці Людвік Абрамовіч, хаця і цікавіліся беларускім пытаннем і шмат пісалі пра характар беларускага руху, ніколі, аднак, не выступалі з пазіцыі беларусаў. Калі, напрыклад, нехта сёння ў Маскве займаецца ідэалогіяй украінскага нацыянальнага руху, не абазначае, што ён — украінец нават тады, калі разглядае гэтае пытанне толькі з навуковых пазіцый. Ідэю „краёвасці" прадстаўляў таксама ў самай чыстай форме Уладзіслаў Талочка. Укладальнікі кніжкі змясцілі яго творы ў раздзеле „Вехі беларускага фундаменталізму". Дарэчы, намагчыма тут зарыентавацца, пра які фундаменталізм ідзе гаворка. Шмат матэрыялу ў гэтай частцы прысвячаецца рэлігійнаму пытанню сярод беларусаў. Прадстаўлены тут роздумы Казіміра Сваяка, Вячаслава Багдановіча, Адама Станкевіча пра праблемы рэлігійнага вызначэння жыхароў Беларусі і разважанні пра іх нацыянальны характар Тамаша Грыба, Альбіна Стэповіча, ксяндза Вінцука Гадлеўскага і Мікалая Шкялёнка. Цяжка, аднак, акрэсліць, што, паводле ўкладальнікаў анталогіі, з'яўляецца тут фундаменталізмам.

Даволі зразумелая канструкцыя раздзела „У люстэрку нацыянал-камунізму", дзе змяшчаюцца творы стваральнікаў беларускга нацыянальнага жыцця ў Савецкай Беларусі, напрыклад, Зміцера Жылуновіча, Аляксандра Бурбіса ці Усевалада Ігнатоўскага. Усе яны па сваіх перакананнях былі камуністамі і верылі ў тое, што камунізм найлепей вырашыць беларускія нацыянальныя праблемы. У гэтым акружэнні вылучаецца, аднак, асоба Браніслава Тарашкевіча, які не вырас з камуністычных традыцый і толькі польская палітыка прымусіла яго шукаць пагаднення з камуністамі дзеля ратавання нацыянальнай справы. Камунізм для Тарашкевіча быў хутчэй метадам вырашэння нацыянальных праблем, чым мэтай у развіцці грамадства.

Тры апошнія раздзелы створаны паводле храналагічна-геаграфічных крытэрыяў. У адным з іх змяшчаюцца разважанні Усевалада Вераса, Уладзіслава Казлоўскага, Вацлава Іваноўскага, Фабіяна Акінчыца і Антона Адамовіча, але толькі тыя, якія ўзніклі падчас вайны. Шкада, бо Іваноўскі на пачатку стагоддзя, а Казлоўскі ў трыццатых гадах прэзентавалі думку больш арыгінальную, чым ва ўмовах супрацоўніцтва з нямецкім акупантам.

Пасляваенную беларускую думку прадстаўляе эміграцыйнае асяроддзе, а ад канца васьмідзесятых гадоў — апазіцыйныя дзеячы ў Беларусі. Цяжка, аднак, са зместу змешчаных твораў зарыентавацца, якой Беларусі чакае беларуская нацыянальная эліта. На жаль, няма тут ніякай прапановы на будучыню. Як дайсці да незалежнасці, паводле якіх крытэрыяў наладзіць адносіны з суседзямі, што рабіць, каб Беларусь набыла беларускі нацыянальны характар, як стварыць з савецкай масы нацыянальную супольнасць, як з нацыянальнага менталітэту пазбыцца лакейства, халуйства, пачуцця няпэўнацэннасці, волі служэння іншым? Пытанні можна ставіць і ставіць, адказаў, аднак, трэба ўсё чакаць.

**Яўген Міранові**ч

**Беларуская думка XX стагоддзя. Філасофія, рэлігія, культура*, Варшава 1998, сс 746.

# Адкрыты ліст Хведара Галёнкі

Хведар Галёнка, член Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, выслаў адкрыты ліст галоўнаму рэдактару штодзёнкі „Gazeta Wyborcza", у якім палемізуе з інтэрв'ю, дадзеным ім беларускаму журналісту Мікалаю Халезіну. Інтэрв'ю апублікавала мінская газета „Народная воля", а перадрукаваў амерыканскі „Беларускі дайджэст" (№ 9 (57) — кастрычнік 1998 г.).

Аўтар абшырнага адкрытага ліста (сем старонак шчыльнага машынапісу) абураецца на рэдактара Міхніка з прычыны ягоных непрыхільных выказванняў у адрас Беларусі і прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. „Я вымушаны сказаць вам, — піша Хведар Галёнка, — што ў інтэрв'ю для газеты „Беларускі дайджэст" вы былі зусім неаб'ектыўным. Прымянілі вы ў гэтым інтэрв'ю такія, між іншым, акрэсленні: Беларусь — непаўнацэнная краіна, Лукашэнка гэта не дэмакрат, але калгасны Банапарт, Я назваў бы гэты рэжым дэмакратурай, што абазначае наяўнасць законаў і дэмакратычных інстытутаў, якія не дзейнічаюць. Думаю, што вы сказалі гэта не па злой волі, але з-за адсутнасці ведаў на тэму сітуацыі польскай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь і беларускай меншасці ў Польшчы. У сувязі з гэтым пастараюся наблізіць вам гэтую праблематыку".

У далейшым аўтар ліста апісвае становішча беларускага насельніцтва ў міжваеннай Польшчы пасля Рыжскага дагавора, калі беларусы сталі „непатрэбнымі людзьмі". Звяртае ён увагу на знішчэнне беларускіх цывільных і вайсковых арганізацый, абмежаваны доступ беларускіх дзяцей да асветы (чатырохкласныя вясковыя школы), канцлагер у Картуз-Бярозе, прыводзіць прыклады адмоўнага стаўлення польскай адміністрацыі да беларускага насельніцтва, прыгадвае трагедыю беларускіх вёсак спаленых „постакаўскімі бандамі „Бурага", „Лупашкі", „Млота" і многіх іншых верхаводаў".

Пішучы пра беларускае школьніцтва, аўтар сцвярджае, што ўмовы для яго развіцця стварыліся толькі пасля 17 верасня 1939 года, „калі з гэтых земляў былі прагнаны польскія акупацыйныя ўлады". Тады „беларусы Беласточчыны, упершыню ў гісторыі, масава пайшлі вучыцца". Нямецкая акупацыя абмежавала беларускае школьніцтва, але ліквідавалася яно ў першых гадах Народнай Польшчы, згодна тэзісу: Польшча — аднанацыянальная дзяржава. Толькі пасля некалькіх гадоў беларуская мова была дапушчана ў польскія школы ў якасці прадмета, што давяло да амаль поўнай ліквідацыі навучання беларускай мовы на Беласточчыне ў часы ПНР. Цяперашняя акцыя „аплёўвання Беларусі, урада, прэзідэнта, называнне Беларусі непаўнацэннай краінай у сродках масавай інфармацыі (...) ставіць сабе за мэту ліквідацыю астаткаў беларускага патрыятызму ў грамадстве. (...) Вынікі гэтай кампаніі ўжо відавочны. Значна скарацілася колькасць дзяцей, якія вучацца роднай мове".

Непрыхільнасць польскіх улад да беларусаў аўтар падмацоўвае прыкладамі з нядаўняга мінулага: роспуск „Лявоніхі", ліквідацыя Беларускага рэгіянальнага этнаграфічнага музея ў Белавежы, адабранне ў БГКТ прадпрыемства „Бэтэска" і беларускага клуба ў Варшаве, спробы ліквідаваць Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Аўтар прыгадвае таксама, што ў Варшаве пасля І сусветнай вайны былі 42 праваслаўныя цэрквы, якія ў пераважнай большасці былі разбураны, разабраны або перададзены іншым рэлігійным абшчынам.

Далей Хведар Галёнка паказвае сітуацыю палякаў у Беларусі, якія карыстаюцца там усялякімі дабротамі. Напрыклад, польскія арганізацыі маюць памяшканні для культурна-асветнай працы, каталікам былі вернуты 240 касцельных будынкаў, „нават у тых мясцінах, дзе пражывала 2 або 3 каталіцкія сем'і". Аўтар заўважае таксама, што „ёсць у Польшчы многа людзей, якія не могуць змірыцца з тым, што Рэспубліка Беларусь не з'яўляецца ўжо калоніяй, а толькі самастойнай дзяржавай" і ў сувязі з гэтым „у размовах, перадачах, артыкулах назву Рэспубліка Беларусь замяняюць фальшыўкай «Усходнія крэсы»". У заканчэнні аўтар заклікае: „Час пачаць шанаваць суседнюю краіну і прызнаць палякам Беларускі Народ". Да ліста прыложаны дакументы аб злачынствах польскіх падпольных падраздзяленняў на беларускім насельніцтве пасля вайны.

**(вл)**

**Чытачы аб вайне НАТО з Югаславіяй**

# Быццам Галіаф з Давідам

Апошнія дні сакавіка прынеслі ўскладненне сітуацыі на Балканах, у выніку чаго пачалася авіяцыйная вайна краін НАТО супраць Сербіі. І хаця сербы на амерыканцаў не нападалі, то ЗША са сваімі магутнымі паветранымі сіламі і пры дапамозе Нямеччыны, Італіі, Англіі ды Францыі стала бамбардзіраваць югаслаўскія гарады, наносячы смерць і пакуты мірнаму насельніцтву гэтай цудоўнай краіны. Афіцыйна атака тлумачыцца вайной супраць прэзідэнта Слабадана Мілошавіча, але ўсё ж такі церпяць невінаватыя грамадзяне.

У гэтым негуманным і беззаконным дзеянні (ЗША не пыталі дазволу Савета Бяспекі ААН) амерыканцам маральна дапамагаюць іншыя члены НАТО, у тым ліку і наша дзяржава. А відаць гэта па аднабокім асвятленні падзей у польскіх сродках масавай інфармацыі, у якіх пра сербаў гаворыцца выключна як аб злачынцах.

Кім жа тады з'яўляюцца падпольшчыкі з г.зв. албанскай вызваленчай арміі? Мы тут, на Беласточчыне, добра ведаем дзеянні падпольных фарміраванняў пасля заканчэння ІІ сусветнай вайны. На маю думку, усе падпольныя арганізацыі ўсюды аднолькава паводзяць сябе ў дзеянні. Амерыканцы абвінавачваюць толькі сербаў у парушэнні правоў албанскай нацыянальнай меншасці у Косаве. А ці ў іншых краінах не парушаюцца правы нацменаў? Хопіць прывесці прыклад Турцыі, якая не хоча выйсці насустрач курдскім патрабаванням. Турцыя змагаецца з курдамі ўжо шмат гадоў, у выніку чаго загінулі тысячы людзей. Але ЗША не чапае Турцыю, свайго хаўрусніка па НАТО. Амерыканцам спадабалася біць малыя, слабыя народы. Да гэтай пары білі іракцаў, цяпер узяліся за сербаў. Добра памятаем вайну ў Чачні, але тады Амерыка лічыла яе ўнутранай справай Расіі. Падобных сітуацый, калі парушаюцца правы чалавека, можна прывесці больш. Напрыклад, Афганістан, Судан, Алжыр, Інданезія ці Шры-Ланка. А ў Еўропе таксама неспакойна не толькі на Балканах. У Іспаніі ўлады жорстка расправляюцца з баскамі, а ў Вялікабрытаніі — з ірландцамі.

Чаму тады ЗША пачалі вайну супраць Югаславіі? Ці сапраўды прычынай гэтаму з'яўляецца абарона косаўскіх албанцаў? Мабыць, адказ прынясе будучыня. Пакуль што з тэлебачання можна было даведацца, што прэзідэнт ЗША Біл Клінтан абаснаваў сваё рашэнне неабходнасцю „навесці парадак у гэтай частцы Еўропы, каб амерыканскія прадпрымальнікі маглі беспераШкодна ўвозіць у Еўропу свае тавары ды прадаваць там". Усё становіцца зразумелым: ЗША абараняюць свае інтарэсы!

А мы, польскія грамадзяне, можам толькі прыглядацца да гэтага і цешыцца як Галіаф распраўляецца з Давідам ды пляскаць у ладкі. А калі Галіафу спатрэбіцца наша дапамога, тады пашлем нашых жаўнераў, каб разам з немцамі ды італьянцамі змагацца супраць сербаў. Нездарма ў тэлебачанні паказваюць як нашы дэсантнікі рыхтуюцца да садзеяння натаўскім падраздзяленням.

Для мяне, як ветэрана ІІ сусветнай вайны, добра запомніўся гераізм югаслаўскіх партызан, у асноўным сербаў, у барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі. Калі ў ліпені 1944 года быў абвешчаны набор дабравольцаў у Югаславію, я быў адным з ахвотных паехаць туды. Але сітуацыя на балканскім фронце хутка памянялася і партызаны самі здолелі вызваліць Югаславію і суседнюю Албанію.

Сёння выказваю словы салідарнасці з тымі людзьмі, якія цвяроза ацэньваюць сітуацыю ў Югаславіі і не паўтараюць лозунгі амерыканскай прапаганды. Маю тут на ўвазе Тадэуша Мазавецкага, а таксама Яўгена Чыквіна з сябрамі са штомесячніка „Przegląd Prawosławny", якія выслалі пратэст прэзідэнту Аляксандру Кваснеўскаму. Праваслаўны ардынарыят Войска Польскага таксама павінен зрабіць усё, каб жаўнеры праваслаўнага веравызнання не былі высланы ваяваць супраць сербаў — праваслаўных славян.

**Юстын Пракаповіч**

# Андрэй Вішаваты — вядомы польскі філосаф беларускага паходжання

Польская культура не раз карысталася жыццятворнымі сокамі беларускай зямлі. Так было з Адамам Міцкевічам, Элізай Ажэшка ці Генрыкам Сянкевічам, так было з князямі Чартарыскімі, якія да першай паловы XVII ст. былі праваслаўнымі.

Падобна справа мелася з самым выдатным арыянскім філосафам Андрэем Вішаватым (1608-1678), якога бацька Станіслаў паходзіў з беднай заходнебеларускай шляхты. Самым багатым у сям'і бацькі быў, мабыць, дзед Аўраам, каморнік бранскі і ўладальнік вёскі Шумкі Бельскага павета. Сам Андрэй нарадзіўся ў мястэчку Філіпаве каля Сувалкаў. Польскай крыві ў ягоных жылах было няшмога, бо яго кроўным дзедам быў выдатны італьянскі тэолаг-антытрынітарый Фауст Соцын (1539-1604), які на старасць пасяліўся ў Малапольшчы, а бабка Альжбета выводзілася з нямецкай патрыцыянскай кракаўскай сям'і, якая толькі што пачынала станавіцца польскай шляхтай.

Усе бліжэйшыя сваякі Андрэя належалі па перадавой тады ў Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў секты арыян, якіх называлі баратамі польскімі і літоўскімі. Самым вялікім арыянскім магнатам быў брэсцкі ваявода, а потым віленскі каштэлян, высокаадукаваны Ян Кішка (12.06.1547 — 9.07.1592; гэтых дакладных дат не ведае „Польскі біяграфічны слоўнік"), уладальнік амаль 500 вёсак і мястэчак каля Навагрудка і на Падляшшы.

Ужо ў дзяцінстве Андрэя Вішаватага ягоны бацька Станіслаў, арандатар, пераехаў у Малапольшчу, дзе асвета была лепш арганізаваная чым на ўсходзе. Спачатку юнак вучыўся ў хатняй школе Морштынаў у Рацібарску каля Кракава, а ўжо ў 1619 г. бацька паслаў яго ў вядомую паўвышэйшую арыянскую школу ў Ракаве каля Сандаміра. Яе рэктарам быў вядомы вучоны ў галіне этыкі немец Ян Крэль, найбліжэйшы настаўнік Андрэя.

Багаты ведамі, але бедны матэрыяльна Андрэй Вішаваты стаў у 1629 г. хатнім настаўнікам дзяцей люблінскага ваяводы, католіка Аляксандра Тарлы. У 1631 г., карыстаючыся стыпендыяй Ракаўскай акадэміі, падаўся ён у замежнае падарожжа. У Гамбургу сустрэўся з самым выдатным тады юрыстам Гугам Гроцыем, а пасля стаў студэнтам тэалогіі на найлепшым тады пратэстанцкім універсітэце ў галандскім горадзе Лейдэне. Пасябраваў там, напрыклад, з калегам па канфесіі і вядомым вайсковым спецыялістам Кшыштафам Арцішэўскім, які вярнуўся з экзатычнай Бразіліі. Пасля наведаў Англію і Парыж, дзе пазнаёміўся з тадышнім прадстаўніком матэрыялістычнай школы філасофіі (каталіцкім духоўным) Пятром Гасендзі. Вярнуўшыся ў Польшчу, намагаўся абараняць на сейме ў Варшаве ў 1639 г. ракаўскіх арыян ад ганенняў.

У 1634 г. Андрэй Вішаваты, ведаючы рускую мову, атрымаў працу ў якасці прапаведніка ў арыянскім зборы ў Шэршнях на Украіне, а потым прапаведаваў у іншых мястэчках Валыні, дзе сярод русінаў пад патранатам шляхецкага роду Чапліцаў паспяхова пашыралася арыянства (адзін з валынян ужо 20 гадоў раней у альбоме Андрэя Любянецкага, ведзеным у Ракаве на 25 мовах, запісаў: „Развсецела съя лампа Божая").

Ажаніўшыся ў 1648 г. з малапольскай шляхцянкай Аляксандрай Рупнёўскай, Андрэй Вішаваты пераехаў у Седліск на Любліншчыне, у якім да сённяшняга дня захаваліся астаткі ад арыянскага могільніка. Пасля выбуху казацкага паўстання Вішаваты на нейкі час уцёк у ваколіцы Гданьска, але потым вярнуўся ў Седліск, а ў 1649 г. пераехаў у вёсачку Радостаў у Свентакшыскіх горах, адкуль нёс рэлігійную паслугу ракаўскім мяшчанам, якія, нягледзячы на афіцыйнае выгнанне братоў польскіх з Ракава ў 1638 г.,засталіся верныя арыянству. Вішаваты часова апекаваўся слаўным зборам у Люславіцах-на-Дунайцы, дзе 50 гадоў раней памёр ягоны дзед Фауст Соцын і дзе сто гадоў існавала арыянская школа. Тады, на Кракаўскім Падгор'і, наблізіўся да сям'і вялікага польскага паэта II паловы XVII ст. Вацлава Патоцкага.

Падчас шведскага „патопу" 1655-1660 гадоў Вішаваты туляўся па Малапольшчы, намагаючыся падтрымаць па духу сабратаў і спрачаючыся з каталіцкімі ксяндзамі. Пасля выгнання арыян з Рэчы Паспалітай 10 ліпеня 1660 г. Андрэй Вішаваты пакінуў Польшчу. Бадзяўся па Сілезіі, Валахіі і Нямеччыне, аж у канцы 1666 г. пасяліўся ў галандскім Амстэрдаме, самым жывым горадзе свету, званым па прычыне вялікай талерантнасці „Ліберапалісам" — горадам свабоды. Жылі ў ім людзі розных веравызнанняў і поглядаў, напрыклад, французскі філосаф, пачынальнік рацыяналізму Рэнэ Дэкарт і яўрэйскі вальнадумец Барух (Бенядзікт) Спіноза. У Амстэрдаме можна было друкаваць на ўсіх мовах і амаль усё. Тут менавіта выйшаў асноўны збор арыянскай літаратуры „Bibliotheca Fratrum Polonorum", рэдактарам якога быў наш герой. Памёр Андрэй Вішаваты 29 ліпеня 1678 г. у Амстэрдаме, раней набыўшы вядомасць сваімі ліберальнымі поглядамі, развінутымі ў духу заходнееўрапейскай навукі.

З поспехам прабаваў Вішаваты сваіх сіл у польскамоўнай паэзіі, абвяргаючы, напрыклад, недарэчныя меркаванні французскага ксяндза Войцеха Дэмбалэнцкага, што першапачаткова ўвесь свет быў славянскім, аднак у гісторыю філасофіі трапіў дзякуючы свайму лацінскаму трактату „Religio rationalis" („Рэлігія кіраваная розумам"), у якім абапіраючыся на філасофію Дэкарта і сацыяніянства (пераўтворанае ягоным дзедам арыянства) спрабаваў памірыць рэлігію з розумам. Абмяжоўваў ён неабходныя для збаўлення праўды і не прызнаваў у рэлігіі нічога нязгоднага са здаровым розумам. Прызнаваў існаванне Бога, аднак намагаўся абмежаваць усе рэлігійныя абавязкі і веру на карысць розуму. Крытычна ставіўся да Біблії, хаця не адкідаў яе поўнасцю, як зрабіў гэта Спіноза. Зусім адкідаў усялякія цуды, ставячы ў рэлігіі на першым месцы этыку.

Дзейнасць Андрэя Вішаватага шырока апісаў ягоны прускі паплечнік Кшыштаф Сандзіюс 1633-1680), улічыўшы шматлікія рукапісныя работы, якія пазней загубіліся. Асноўную кнігу Сандзіюса „Bibliotheca antitrynitariorum" выдаў зрэшты ў 1684 г. у Амстэрдаме („Freistadii") сын Андрэя, Бенядзікт Вішаваты. У нашым стагоддзі „Religio rationalis" была перадрукавана на польскай і лацінскай мовах, а аўтарам трактата заняўся выдатны польскі вучоны Людвік Хмай, якога любові да праўды не знішчылі савецкія турмы. Андрэй Вішаваты займеў таксама адпаведнае месца ў папулярным „Біяграфічным слоўніку агульнай гісторыі да XVII стагоддзя", які выйшаў друкам у Варшаве ў 1968 годзе.

**Вацлаў Урбан**

# Усё павінна след пакінуць



*Вучні з Нарвы з настаўніцай Нінай Абрамюк у музеі.*

Вучні з Нарвы, якія вучацца беларускай мове, у канцы сакавіка наведалі Беларускі музей у Гайнаўцы. Прыехалі паглядзець выстаўку ткацтва, сельскагаспадарчых і хатніх прыладаў, якімі карысталіся яшчэ іх бабулі і дзядулі.

Настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк кажа, што ўжо з II класа вучні гавораць пра спадчыну. Пачынаючы з V класа расказваюць пра веснавыя і зімовыя гульні, традыцыі ў сваёй сям'і і святочныя абрады. Найбольш ахвотна ўспамінаюць Вялікдзень і Раждаство. Малодшыя расказваюць пра святкаванні ў сваёй сям'і, а старэйшыя ўспамінаюць, як было даўней. У школе знаёмяцца з бабулінымі куфрамі і ўсёй вопраткай, якой карысталіся даўней у родных вёсках.

Вучняў найбольш цікавяць урокі, у час якіх знаёмяцца з канкрэтнымі прадметамі даўніны і рыхтуюць тэатральныя сцэнкі звязаныя з абрадамі. У школе ёсць музейны куточак, у якім знаходзяцца прадметы штодзённага карыстання і вопратка.

На ўрок у Беларускі музей прыехалі вучні IV, V і VI класаў. Гавораць, што прыехалі параўнаць школьныя экспанаты з музейнымі і пазнаёміцца з новымі. Аляксей Харкевіч, які школьнікам быў правадніком па музеі, заўважыў, што гайнаўскія ліцэісты не ведаюць названняў хатніх і гаспадарчых прыладаў даўніны так добра, як вучні з Нарвы. Дзеці пазнаёміліся з прыладамі для апрацоўкі ільну, збожжа, для працы ў гаспадарцы і хаце. Па калоссі разгадвалі яны назвы збожжа, захапляліся вопраткай і вырабамі з саломы. На выстаўцы ткацтва параўноўвалі дываны і пакрывалы з тымі, якія яшчэ захаваліся ў дамах бабуль. Кросны ці калаўротак паказаліся ім вельмі складанымі прыладамі і цяжка было вучням уявіць, як яны працуюць. Пасля экскурсіі па музейных залах вучні затрымаліся на пачастунак у рэстаране. Настаўніца Ніна Абрамюк мяркуе, што ўсе ўрокі па краязнаўству, экскурсіі па ваколіцы і выезд у Музей павінны пакінуць свой след у памяці вучняў і зацікавіць родным. Таму і прыдумалі ў школе лозунг „Усё павінна след пакінуць", які спадарожнічае ўрокам, прысвечаным нашай спадчыне.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Цацкі з адкідаў

Вучні Пачатковай школы н-р 5 у Гайнаўцы приступілі да экалагічнага конкурсу „Porady na odpady", арганізатарам якога з'яўляецца Рэгіянальны цэнтр экалагічнай адукацыі ў Беластоку.

Карыстаючыся пластмасавымі адкідамі вучні IV, V і VI класаў выконвалі імітацыі прадметаў штодзённага карыстання, постацей, лясной жывёлы і дрэў.

— Хацелі мы паказаць, што пластмасавае смецце, якое ляжыць недзе ў лесе ці ў цэнтры горада можна выкарыстоўваць для ўпрыгожвання месца вучобы дома ці ў школе, — кажа настаўніца тэхнікі Альжбета Хмялеўская. — Удзельнікі конкурсу наведалі месцы нелегальнай звалкі смецця і зрабілі апытанне наконт экалагічнай свядомасці насельніцтва Гайнаўкі. Вынікі анкеты яшчэ не падведзены. Думаем збіраць адкіды, парадкаваць наваколле і садзіць дрэвы. Кожны вучань ацэньваецца паводле спецыяльных крытэрыяў. Пасля падвядзем вынікі і ўзнагародзім найлепшых. Экспанаты выкананыя вучнямі знаходзяцца на выстаўцы ў калідоры школы н-р 5.

**(ам-з)**
*Фота Аляксея Мароза*



„ЗОРКА" № 19 09.05.1999

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Яўген Гучок

## Радзіма

У гонар твой князі і каралі,
Паэты і героі дбалі многа,
Але для мяне ж ты —
і месца на Змлі,
дзе я з'явіўся,
каб успомніць Бога.

Сёмы каляровы крыж, размаляваны ўдзельнікамі XVII Сустрэч „Зоркі" знаходзіцца ў Рыбалах, што ў Заблудаўскай гміне. Там 24 красавіка г.г. праходзілі мастацка-журналісцкія заняткі. Фундатарам крыжа і заадно ініцыятарам падзеі быў настаяцель Рыбалаўскага прыхода айцец Рыгор Сасна. Мерапрыемства спалучылася са святкаваннем 120-й гадавіны тамашняй царквы святых Кузьмы і Дзямяна ды ўрачыстага ўваходу ў 2000-ы год хрысціянства.

У Сустрэчах удзельнічала 30 асоб, сярод іх былі вучні Пачатковай школы ў Рыбалах, карэспандэнты „Зоркі" з бельскай „тройкі" і з Беластока.

Размалёўкай крыжа кіраваў бельскі мастак Алег Кабзар. Узніклі таксама журналісцкія матэрыялы, якія друкуем на нашай старонцы.

Удзельнікі XVII Сустрэч „Зоркі" кіруюць словы падзякі айцу **Рыгору Сасне** і **матушцы Антаніне**, спадарыні **Лідзіі Мартынюк** з рыбалаўскага Дома культуры і дырэктару ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім **Васілю Ляшчынскаму.**

Нашымі спонсарамі былі: **Праваслаўная парафія ў Рыбалах, Польскі фонд дзяцей і моладзі, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.**

**Ганна Кандрацюк**



*Удзельнікі XVII Сустрэч „Зоркі". Першыя злева нашы гаспадары: а. Рыгор Сасна і матушка Антаніна.*

# XVII Сустрэчы „

## Маляванне крыжа ў Рыбалах

Разам з сябрамі і выхавацелькай нашага класа настаўніцай беларускай мовы спадарыняй Валянцінай Бабулевіч мы паехалі ў Рыбалы на XVII Сустрэчы „Зоркі". Было гэта ў суботу 24 красавіка. Там вельмі сардэчна прывітаў нас айцец Рыгор Сасна. Калі мы пачалі рыхтавацца да малявання, да нас далучыліся вучні са школы ў Рыбалах. Апрача нас былі там: Алег Кабзар і Дарафей Фіёнік, якія дапамагалі нам у маляванні. Працу пачаў Алег Кабзар малюючы цэлы крыж на белы колер. Пазней падзяліў яго на часткі і раздаў кожнаму з нас іконку, якую трэба было намаляваць у выдзеленай частцы. Я атрымала іконку са Святым Цудатворцам Іаанам Кранштацкім. Вельмі цяжка было мне намаляваць гэтага святога, таму што быў ён апрануты як бацюшка, на шыі меў крыж, а ў руцэ трымаў чашу. Усё гэта трэба было маляваць вельмі дакладна. Але калі скончыла працу і параўнала яе з іншымі, амаль не скакала ад радасці. Я намалявала таксама арнаменты.

У Рыбалах пазнаёмілася я з новымі сябрамі. Найбольш часу правяла з Асяй Александрук. Жыве яна ў Давідавічах і вучыцца ў шостым класе ПШ у Рыбалах. Яна мілая і вясёлая дзяўчынка. Мы шмат размаўлялі і я даведалася, што Ася вельмі любіць звяроў, а найбольш катоў і сабак, як і я.

Мелі мы перапынак на абед, на які запрасіў нас бацюшка. У час абеду айцец Сасна многа смяяўся, жартаваў і сардэчна запрашаў, каб мы як найбольш елі. Пасля абеду вярнуліся да працы. Калі крыж быў ужо размаляваны, усе мы перад царквой зрабілі памятны здымак.

Дадому вярнулася вечарам — змучаная, але задаволеная.

**Бася Жэрунь, клас V „ц"**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Польска-беларуская крыжаванка № 19

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Rocznica | ▼ | Droga | ▼ | Mgnienie | ▼ | Plon | ▼ | Dar |
| ► | | | | | | ▼ | | Sens |
| Gwiazdka | | Cerkiew | | Hart | ► | | | ▼ |
| ► | | | | | 📖 | | 📖 | |
| Prezent | | 📖 | | 📖 | 📖 | | 📖 | |
| ► | | | | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу 3 тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 15:** Мёд, успамін, валун, Вялікдзень, тара, рот, маца, краса. Свята, палац, ліра, мука, індык, вера, нос, дэльта.

Узнагароды — аўтаручкі (cienkopisy) выйгралі: **Анна Каліноўская** з Махнатага, **Марцін Лукошык** і **Паўліна Савіцкая** з Гарадка, **Бася Жэрунь** і **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага, **Адрыян Ільяшук** з Кленік, **Аня Іванюк** і **Бася Сянкевіч** з Нарвы. Віншуем!

 

# Дзеці — гэта аздоба прыхода

**З настаяцелем Рыбалаўскай парафіі, айцом Рыгорам САСНОЙ, гутараць удзельнікі XVII Сустрэч „Зоркі” — Міхась Сцепанюк, Лукаш Верамяюк і Тамаш Яўфімюк.**



*Духоўную апеку спраўляў а. Рыгор Сасна.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

***— Ці, будучы ў нашым узросце, Вы ведалі, што станеце святаром?***

**а. Рыгор Сасна:** — У пачатковай школе я так далёка не думаў аб сваім лёсе. Час быў тады цяжкі, складаны, але я меў вялікую ахвоту да навукі. Таму закончыўшы падставовую школу я паступіў у Бельскі беларускі ліцэй.

***— Ведаем, што ў час навукі ў ліцэі Вы ігралі ў школьным аркестры.***

**оркі”**

— Гэты перыяд я прыгадваю з пэўным хваляваннем. Справа ў тым, што не маю вялікіх спявачых здольнасцяў. Таму, пасля кароткай музычнай кар’еры, я ўсімі сіламі хацеў выкрунуцца з аркестра. У канцы я прыдаваўся як насільшчык інструментаў.

***— На якім інструменце Вы ігралі?***

— Хацелі мяне навучыць на барытоне.

***— Вы навучаеце рэлігіі ў школе. Ці цяжка перадаваць веды з гэтага прадмета маладым людзям?***

— З дзяцьмі працую ўжо 39 гадоў. За гэты час я пабачыў як мяняецца форма навучання і адносіны самой моладзі да Царквы. Калі я быў на парафіі ў Сямятычах і вучыў там Закону Божаму, нягледзячы на цяжкія ўмовы, назіраў вялікую прывязанасць маіх вучняў да рэлігіі. Сёння вучні інакш адносяцца да гэтых спраў. Справа ў тым, што чалавек рэлігіі вучыцца ўсё жыццё, а ў школе яе часта лічаць як дадатковы прадмет.

***— Колькі ў Рыбалах навучэнцаў?***

— Прыблізна 80 вучняў. У нашай школе ёсць таксама каталікі і яны складаюць 20 працэнтаў школьнікаў. Я вяду заняткі па рэлігіі ў VII і VIII класах. Малодшымі вучнямі займаецца наш псаломшчык Адам Барташэвіч.

***— Вашы навучэнцы добра чытаюць на царкоўна-славянскай мове?***

— Настаўнік-катэхет мае абавязак накіроўваць сваіх вучняў, каб яны актыўна ўключаліся ў жыццё Царквы. Дзеці і моладзь гэта аздоба прыхода і наша будучыня.

***— На якой мове Вы размаўляеце з дзяцьмі?***

— Стараюся кантактавацца на мясцовым дыялекце. У выпадку, калі на ўроках разглядаем нейкія матэрыялы на рускай ці на літаратурнай беларускай мове, карыстаемся гэтымі мовамі.

***— Як успрынялі дзеці вестку пра маляванне крыжа?***

— Я аб’явіў, што будзе такая нагода. Распытаўся, хто добра малюе і дзеці гэтым пацікавіліся. Думаю, што яны запамятаюць на ўсё жыццё маляванне нашага крыжа. А можа ў будучыні будуць яны падтрымоўваць такую традыцыю.

***— Ці Вы, як вядомы даследчык гісторыі нашай зямлі, расказваеце дзецям пра багатую гісторыю Рыбал?***

— На двух уроках у тыдзень цяжка знайсці на ўсё час. Перш за ўсё дзеці знаёмяцца з царкоўнымі абрадамі, вучацца ўдзельніцтва і добрых паводзін у царкве. Калі ідзе пра гісторыю мясцовасці, дык зараз выходзіць кніжка Дарафея Фіёніка і мая пра Рыбалы. Буду старацца, каб кожная сям’я прыдбала гэтую кніжку.

***— Колькі гадоў служыце Богу?***

— У гэтым годзе мне споўніцца 60 гадоў, а ў 2000 годзе — 40 гадоў маёй службы Царкве.

***— Ці чытаеце „Зорку”?***

— Дакладна чытаю ўсю „Ніву”, бо яна багатая і датычыць нас усіх. „Зорка” мяне вельмі радуе, асабліва, калі бачу прозвішчы вучняў — будучых журналістаў, інжынераў, прафесараў... Калі нейкі артыкул у „Зорцы” датычыць Царквы, заношу яго ў бібліяграфію.

***— Дзякуем за размову і далучаем найлепшыя пажаданні з нагоды Вашага 60-годдзя і 120 гадавіны царквы ў Рыбалах.***

# Гуляюць у розныя віды тэатра

— Дзейнасць Дома культуры ў Рыбалах у асноўным адводзіцца працы з дзяцьмі, — кажа Лідзія Мартынюк, кіраўнік асяродка. — Амаль штодзень пасля ўрокаў заходзяць сюды школьнікі — і тыя, што чакаюць аўтобуса, і мясцовыя. Такім чынам плённа і творча праводзяць тут вольныя гадзіны. Спецыялізуюцца яны ў тэатральных пастаноўках і пластычных занятках.

Лідзія Мартынюк пералічвае тэатральныя спектаклі, наладжаныя ў бягучым годзе: „Яслі”, „Грамада калядоўшчыкаў”, „Прыгажуня і пачвара”, „Чырвоная шапачка”, „Гуз справа, гуз злева”, „Жыццё вясковага хлопчыка”, „Сваты”. У асяродку чатыры тэатральныя групы, у якіх займаюцца дзеці ад нулявога па восьмы клас.

— У „Сватах” я іграю ролю... старога кавалера! — кажа Агнешка Максімюк, вучаніца VII класа, якая з шасці гадоў прыходзіць у Дом культуры. — Тут сапраўды можна цікава правесці час!



*Лідзія Мартынюк і яе аматары тэатральных заняткаў.*

Малодшая на два гады ейная сястра Анэта падтаквае галавой. Анэта Максімюк таксама паклонніца тэатральных заняткаў. Дзяўчаты любяць таксама маляваць.

— Нашы дзеці — таленавітыя, — адзначае спадарыня Мартынюк. — У пластычным конкурсе, што праходзіў у Заблудаве, на дзесяць узнагарод нашы заваявалі сем!

Таксама тэатральныя выступленні прынеслі ім многа поспехаў і прызаў.

Рыбалаўскіх самадзейнікаў можна сустрэць кожны год на аглядзе беларускіх тэатральных форм. Сёлета яны прадставілі пастаноўку „Гуз справа, гуз злева”. Два гады таму заваявалі гран-пры ў Кляшчэлях. Цікава, што рыбалаўскія самадзейнікі паспяхова прымяняюць розныя віды тэатра: класічны, абрадавы, кукальны. Неўзабаве паедуць у Ласінку, дзе ад некалькіх гадоў ладзіцца агляд абрадавых пастановак. Нашы сябры паедуць туды са згаданымі „Сватамі”. Варта адзначыць, што ў калектыве дзеткі з многіх навакольных вёсак — з Паўлаў, Страль цоў, Целушок, Канюкоў. Спадарыня Мартынюк згадала таксама выступленні ў Ваяводскім асяродку культуры ў Беластоку, Ваяводскай бібліятэцы і тое, што ў іх беларускіх п’есах выступаюць таксама мясцовыя палякі.

— Усім дзецям ды мне самой вельмі падабаюцца беларускія пастаноўкі, — кажа Лідзія Мартынюк.

**ЗОРКА**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*30 красавіка г.г. Яго Блажэнства мітрапаліт варшаўскі і ўсёй Польшчы Сава асвяціў наш крыж, а айцу Рыгору Сасне прысвоіў мітрат. Гэты дзень стаў у Рыбалах прыхадскім святам. Ва ўрачыстасць уключыліся ўсе праваслаўныя дзеткі з мясцовай школы.*



 

# Развітанне з Рыгорам Байко



Быў маляўнічай, арыгінальнай асобай у Белавежы. Невялікага росту, з сівымі, густымі валасамі і барадой, ужо сваім выглядам прыцягваў увагу. Час ад часу хтосьці прыкмячаў: „Ён, быццам з рускай народнай казкі выняты!" Усё ж дзядзька Рыгор праславіўся сваім нетыповым зацікаўленнем — збіраннем розных старых рэчаў і прадметаў. Адышоў ад нас напрыканцы праваслаўнага Вялікага посту (9 красавіка г.г.). Белавежцы напэўна балюча адчуюць адсутнасць незвычайнага чалавека, які трывала ўпісаўся ў гісторыю мястэчка.

Рыгор Байко нарадзіўся 20 сакавіка 1908 г. у Белавежы, у сям'і Еўдакіі і Рыгора. Бацька быў палясоўшчыкам у пушчы. На абшырным пляцы, які ягоны дзед Іван атрымаў за 25-гадовую службу ў царскай арміі, бацька пабудаваў новы дом. На жаль, доўга ім не карыстаўся — памёр у 1914 годзе. Праз год дом гэты была вымушана пакінуць таксама ягоная сям'я. У бежанстве сямігадовы Рыгорка трапіў з маці і сваякамі ў вёску Цякалаўшчына Слуцкага ўезда. Калі ўспыхнула Вялікая кастрычніцкая рэвалюцыя, Рыгор закончыў школу на двух толькі класах. Неўзабаве памерла яго маці. Сірату прытуліў дзядзька Канстанцін.

У Белавежу Рыгор з дзядзькам вярнуліся даволі хутка, бо восенню 1918 г. Родны дом Рыгора займалі яшчэ немцы, якія заснавалі тут афіцэрскае казіно. Рыгор дапамагаў свайму дзядзьку на гаспадарцы. Хацеў пайсці ў школу працягваць навуку, але дзядзька не бачыў такой патрэбы, нават сваіх дзяцей не пасылаў вучыцца. Усё ж такі Рыгору ўдалося закончыць курсы польскай мовы. У 1931-32 гадах служыў у польскім войску. Пасля вяртання дамоў хапаўся розных заняткаў, найчасцей працаваў маляром. У снежні 1934 г. ажаніўся — дачакаўся дачкі Веры і сына Мікалая. Падчас савецкай улады працаваў сторажам у капітана Балбачова, які забяспечваў войска ў драўніну з Белавежскай пушчы.

Калі напрыканцы чэрвеня 1941 г. у Белавежу ўвайшлі немцы, Рыгор амаль не патраціў жыццё. Нейкі гітлеравец прыкмеціў, што Рыгор носіць штаны з вайсковага сукна і палічыў яго савецкім салдатам. Рыгора выратавалі ад расстрэлу толькі буйныя валасы на галаве, якіх салдатам не дазвалялася насіць. Другі раз прыйшлося яму капаць сабе магілу ў агародзе, бо немцы прыкмецілі на ягоным панадворку чахол для кулямёта, які Рыгор дзесьці знайшоў, пакінуты адступаючым войскам і накрываў ім ваконца ў склепе. На шчасце, неяк удалося яму апраўдацца. Пры немцах працаваў крыху печніком, потым рабочым у тартаку і на лясной чыгунцы. Пасля вайны найчасцей працаваў маляром — гэтая прафесія неяк найбольш яму падыходзіла. Нейкі час працаваў таксама возчыкам у мясцовым Лясным тэхнікуме, наканец рабочым на будове гасцініцы „Іва". У той час моцна захварэў і перайшоў на пенсію.

Калі паздаравеў, цалкам аддаўся збіранню старых рэчаў, да чаго, як сам прызнаваўся, цягу меў ад дзяцінства. Штуршок для новага занятку даў яму настаўнік мясцовага Ляснога тэхнікума інж. Здзіслаў Новак, сам нумізматык і калекцыянер. Сп. Рыгор часта выпраўляўся ў навакольныя вёскі ў пошуках старых, арыгінальных прадметаў. Хіба не знайшлося б у наваколлі Белавежскай пушчы аніводнай вёскі, у якую б ён не заглянуў. Быў частым госцем і ў Беластоку. Ідучы на рынак, з неадлучнай торбай пад рукой, абавязкова наведваў „Дэсу". Пастаянна падкрэсліваў, што ў кожным месцы можна наткнуцца на нешта цікавае. Трэба толькі ўмець глядзець, бо не ўсё зразу кідаецца ў вочы. Шмат цікавых рэчаў знайшоў ён проста пад плотам або на звалцы смецця. Кожную такую знаходку ачышчаў, ладзіў, часам дарабляў нейкую дэталь. Калі сам не патрапіў, аддаваў спецыялісту. І праз нейкі час непрыдатная рэч перамянялася ў калекцыянерскі рарытэт. Такім спосабам сп. Рыгор выратаваў ад знішчэння многія прадметы.

Сам стварыў уласную калекцыю. Найбольш ганарыўся наборам самавараў XIX стагоддзя і прасаў на вугаль. Ягоныя вочы радаваліся таксама калекцыямі старых грошай, медалёў і значкоў. Зрэшты, цяжка было б пералічыць усё тое, што дзядзька Рыгор накапіў ад пачатку сямідзесятых гадоў. У яго кожны мог сабе штосьці цікавага знайсці.

Рыгор Байко наладзіў сувязі са шматлікімі калекцыянерамі па ўсёй Польшчы. Дапамагалі яму ў гэтым нейкім чынам і артыкулы аб ім, якія друкаваліся ў беластоцкай прэсе. Дзядзька цешыўся імі, бо ў сваім асяроддзі, пасярод суседзяў, не меў аніякага зразумення для свайго зацікаўлення.

У Белавежы праславіўся яшчэ тым, што пры жыцці пабудаваў сабе на мясцовым могільніку грабніцу. Задуму сваю канчаткова рэалізаваў у лістападзе 1989 г. Клопатам апошніх гадоў жыцця дзядзькі Рыгора была выключная латуневая дошчачка з надпісам на крыжы. Не мог знайсці майстра для яе выканання, але наканец знайшоў.

Рыгор Байко быў таксама сапраўднай скарбніцай ведаў аб мінулым Белавежы. Я сам, дзякуючы яго памяці, здолеў запоўніць шмат „белых плямаў" у гісторыі нашай мясцовасці. На жаль, апошнім часам дзядзька меў праблемы са слыхам і цяжка было ўжо нешта ад яго выцягнуць. Падчас нашых сустрэч найчасцей сам успамінаў гады службы ў войску, але дэталёва!

Са смерцю сп. Рыгора пасмутнеў белавежскі краявід!

**Пётр БАЙКО**

# Свята ў Кляшчэлях



*„Каліна" з Дашоў.*

[1 ☞ працяг]

нюю песню „Двэ вэрбонькі..." Так і шчыміць сэрца. Гэта ж сапраўдныя народныя таленты. Яны не толькі ўмеюць спяваць. Глянцье, з якой дакладнасцю прадстаўляюць яны „вэчуркі", час, калі ёсць нагода паспяваць, а заадно нехта прадзе на калаўроце, хтосьці намотвае ніткі, б'е масла, дзве іншыя жанчыны займаюцца льняным палатном: адна яго качае, другая палошча...

Сцяпан Копа сабраў, зрабіў нотны запіс і выдаў асобнай кніжкай 94 песні, якія спявае калектыў з Дабрывады. А колькі іх праспявана за гэтыя гады: на конкурсах, фэстах, фестывалях беларускай песні і іншых мерапрыемствах!

А калектыў „Каліна" з Дашоў, хаця на дзесяць гадоў маладзейшы, ці не мае чаго ўспамінаць! Спачатку быў толькі дуэт Валянціна Міцэвіч — Соф'я Кердалевіч. Першы раз выступілі ў Дабрывадзе. А пасля трэба было дабрацца ў Беласток на цэнтральны агляд. На матацыкле пагналі на цягнік у Кляшчэлі. Спазніліся. Дагналі цягнік у Бельску. Там у рове пакінулі матацыкл і цягніком паехалі ў Беласток. Мусілі паспець „на песню"!

Ініцыятарам стварэння спявачага калектыву ў Дашах быў Кастусь Сілівановіч. Сёння ў ім спяваюць чатыры жанчыны: Соф'я Кердалевіч, Марыя Рошчанка, Надзея Рошчанка і Еўдакія Маркевіч. На працягу многіх гадоў калектывам кіравала Валянціна Міцэвіч, якая, на жаль, выехала ў Амерыку. Цяпер яе замяніла Соф'я Кердалевіч.

Калектыў з Дашоў, як і дабрывадскі, спявае аўтэнтычныя фальклорныя песні. Таксама без акампанементу, а капэла: „Там у зэленым, у саду", „Ой там у полі", „Плыве човон" і іншыя.

Калектыў ездзіў са сваімі песнямі не толькі па Беласточчыне, але і па ўсёй Польшчы. Быў у Варшаве, Казімежы, Вэнгажэве, Сопаце, Пярэмышлі. Выступаў таксама на Беларусі і Украіне.

Перад сольным спевам Еўдакія Маркевіч раскладае на куфры і століку самаробныя фіранкі: адна з іх зроблена з нітак, другая — выразаная з паперы, выглядае, як карункі. Такія фіранкі выразалі ў іх на вёсцы калісьці на святы.

Па ўсім відаць, што самадзейныя артысткі ведаюць вартасць народнай творчасці.

На вечары, прысвечаным вышэйадзначаным калектывам, выступілі таксама школьнікі з тэатральнага калектыву падставовай школы ў Саках. Яны вельмі свежа і арыгінальна прадставілі сцэнку „Ехаў дзедка на кірмаш" па матывах твораў Кандрата Крапівы, а пры нагодзе выявіліся сапраўдныя таленты. У Саках амаль усе дзеці вывучаюць беларускую мову, і настаўніца Валянціна Дмітрук не мела ніякіх клопатаў з падрыхтоўкай дзяцей да выступлення.

Пасля спявалі таксама дзеці са школы ў Кляшчэлях. Адбылася прэзентацыя кніжыцы вершаў Ядвігі Карпюк з Нараўкі „Listy do Kleszczel", якія „адкрыў" Міхась Артысевіч. Была паказана таксама выстаўка мастацкіх фотаздымкаў „Час цішыні". Тры фотамастакі: Яўген Казюля з Мінска, Зігвард Шміц з Германіі і Марэк Далецкі з Беластока, хаця незалежна адзін ад другога, зрабілі серыю цалкам падобных здымкаў пра жыццё, пра вёску, пра старасць. Гэта выстаўка дэманстравалася ўжо ў Беластоку, Варшаве і Гданьску.

Цікавы быў вечар у горадзе Кляшчэлі. Прафесійна вяла яго дырэктар МГОКа Марыя Клімовіч, дачка былой спявачкі з Дабрывады, якая ўжо не жыве.

Юбілярказ з гэтай гміны было шмат віншаванняў, кветак, падарункаў. І мы зычым ім далейшых нястомных пошукаў і прэзентацыі беларускага фальклору.

**Ада ЧАЧУГА**

*Фота аўтара*

# Нацыянальныя адносіны на Вармії і Мазурах у 1945—1997 гг.

Пад такім загалоўкам Заходні інстытут у Познані выпусціў у мінулым годзе кніжку прафесара Анджэя Саксона. Гэта сумленная публікацыя пра нацыянальныя меншасці ў згаданым шматкультурным рэгіёне. Канец вялікай вайны ў 1945 годзе, піша аўтар, разбурыў той свет, які ад стагоддзяў стваралі вармякі і мазуры, немцы, палякі, нідэрландцы, літоўцы, яўрэі і другія нацыі. На далучаную да Польшчы ў 1945 годзе тэрыторыю пачалі прыбываць новыя жыхары: прымусова, як украінцы ў рамках акцыі „Вісла", ці дабравольна ў пошуках працы, як палякі, беларусы, ромы... Такім чынам тэрыторыя гэтая нанава стала шматкультурнай; аўтар прасачыў працэсы фармавання новага грамадства. Прафесар Анджэй Саксон ацаніў колькасць нацыянальных меншасцей. Паводле яго ў межах сённяшняга Вармінска-Мазурскага ваяводства пражывае не 70 тысяч украінцаў, як гэта яны самі ацэньваюць, а толькі 50-60 тысяч. Таксама немцаў, якія гавораць пра 20 тысяч сваіх, аўтар ацаніў на 15 тысяч. Паменшыўшы лік найбуйнейшых меншасцей, аўтар аптымістычна ўзбуйніў лік найменшых: беларусаў, якіх тут паводле нас 2-3 тысячы, аўтар далічваецца 4-5 тысяч, а старавераў павысіў колькасць са 150 на 200-300 асоб. Толькі ацэнкі колькасці ромаў згодныя: тысяча чалавек. У ваяводстве пражывае таксама каля 4 тысяч вармякаў і каля 6 тысяч мазураў.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

Andrzej Sakson, *Stosunki narodowościowe na Warmii i Mazurach 1945—1997.* Instytut Zachodni w Poznaniu 1998. Nakład 800 egz.

А што гэто за баседа, кеды тылько два дні?..

# Вэселіцца трэбо, дзеткі...

**На гэто я ўжэ ні дохтэр, парадзіць, каб ім, маладым, лепэй жыць. Раз баруццэ, то хай як найлепэй жывут. Раз шлюбуют... — раздумвае бабка Галенка Бірыцкая з Семяноўкі.**


*Пасмяемся, пагаворым... — Галена Бірыцкая з Семяноўкі.*


*Заўтра наша вяселле...*

Заўтра ў Семяноўскім прыходзе — першы ў гэтым годзе шлюб. Бацюшка Мікалай Шабэлян ужо 42 гады тут служыць. Было калісь народу! А гэтыя — Эля з мясцовага прыхода, Юрка з Нараўчанскага, а жыць будуць у Беластоку.

— Але прыязджаць сюды будзем! — робіць агаворку ў прыхадской канцыляры Эля Засім; прыйшлі сёння аформіць усе паперы перад шлюбам, у гміну шлюбавацць ужо не паедуць.

Вяселле цяпер хутка робіцца... Загуляюць у нараўчанскімм рэстаране...

— У гасподзе, — тлумачыць бабе Галенцы ў яе маленькай хатачцы Надзя Мядзведзь з Семенякоўшчыны. Быць у Семяноўцы і не наведаць гэту хатку — грэх проста. Маленькі домік пад ясакарамі, нумар 13. Каб пацешыцца з бабуляй, якой пайшоў дзевяносты год, жыццём. Хоць жыццё было яе цяжкае, трагічнае нават. Ды лягчэй на душы робіцца чалавеку, калі пасядзіць з ёю, паслухае...

Дождж мяне сюды сёння загнаў, завяла я ровар пад сценку. Здавалася, нікога ў хатцы і не было — пэўна, бабка Галенка не прытэпала яшчэ на сваіх двух калочках з вячэрні? — але пачула я ціхія галасы цёткі Надзі і бабулі. А яны ўжо і заўважылі мяне цераз акно. Кажуць, ці то не Мірка там мільганула. Добра бачаць яшчэ, ды і я немаленькая.

Пра вяселле гамоняць заўтрашняе, вядома. Такая падзея! Але што цяпер тыя *васielі* — не тое што калісь!

— Што то гэто за баседа, кеды тылько два дні? Коб то было цэлы тыдзень — то бы было ладне! — бабка Галенка смяецца. А цётка Надзя ўжо мяркуе, што ў „Ніву" варта было б пра тое расказаць, як то калісь было.

— А як каравайніцы спявалі? Вы, можэ, знаеце? — дапытваецца Надзя, хоць чула ўжо не раз усе песні ў выкананні бабы Галенкі.

— Дзіво ні знала! Я ж папахадзіла ў каравайніцы! Хвартуха шчэ й цяпэр маю. Але пасьпіваць... Калі ў мане цяпэр голасу німа. Толік запісваў, посьле паказвае. Я кажу, здаеццэ, не такая хрыпліва?.. Так ужэ ніспраўно выйшло...

... Калісь вяселле выглядала добра, і хораша было, бо сёння так не робяць. Гібалі мы такія караваі...

— І мукою папэцкаюцца... — наводзіць Надзя на анекдоты, ёй ужо вядомыя.

— І папэцкаюць, і... паб'юць! Ёзё Пасецкі то і набіў Д. з Масева! Мы каравай мясілі, за суседнім сталом мужыкі пілі. Ну і *пиэважне* Манька, але і ўсе — то злепяць галушачку, пэц у той бок, то жменю мукі. Бачу, што за жарты, адышла за дзверы, бо ж то нікуды! І галушкай цеста трапілі ў Ёзя, а ён сядзеў у файным сівым швэдры. А ён вылез, і з левай, з правай жартаўніцу! Выбегла яна да мяне і ціха кажа: „Вы, добрэ, што мой чалавек ні бачыў, бо была б дрaка.. Той у швэдры ўзяў мане набіў..." То нашто мукою сыпала!?

Колькі я караваяў нагібала за ўсё жыццё? Не палічу. І як дзе вяселле — клічуць мяне. Забываюць традыцыю, вясельныя, хрысцінныя жарты. Маладыя вось прыедуць — а тут іх месца занята за сталом! Месца выкупіць трэба. Мяне якісь *фацэт* паклікаў, сядзім на месцы маладых. Мужыку — гарэлкі калісь не бракла, не? — чарку гарэлкі, мне цукеркаў. Заплацілі. А на хрысцінах то я перабіраюся за купца. Садзяць „лес" (зімой то хоць якіясь галузкі ў кашу паўстрыкаюць), і той купец лес прадае. Кідаюць па пару грошаў. А каторы лес „рубае", то больш кіне, і той лес забярэ. Хто купіць, той талерачку паб'е. Калісь я апранула, як купец, шыкоўны плашч Тахвілі з Медзвядзёў. „Леначка, аддай шоўкаў плашч!" — пачала яна лемантаваць, бо думала, што як будзем талерку біць, то яго папэцкаем.

— Ну, вяселле, то хоць тры дні. Субота — каравай, у нядзелю — вяселле, у панядзелак — ехалі да маладога, — пералічвае Надзя. — праўда ці не. А калісь, то, пэўна, і больш гасцявалі...

— Ну, каб тыдзень — то ж памардаваліся б! Едзем мы з вяселля з Ахрымоў, памучыліся, дрэмлем. А само пагранічнікі былі на Масеве, ехалі з Міхалова, кажуць: „Хіба паньство з вэсэліска, бо таке помордованэ!" Так, з вэсэліска, бо як на вяселле едзем, то на *вэсіелечко*, а адтуль — то ўжо з вэсэліска! А як былі на вяселлі ў Слабодцы... Быў такі ў нас мужык, што як вып'е, то плача. І плача нарыхтык, вычытвае! Эгэ. Як стало ўжо развідняць, то пачаў быў збірацца з хаты ўцякаць, каб не бачылі, што плакаць пачне. А яго сусед не пускае: „Ты пілнуйсэ мане, але я бэз абеду ні паеду!" А мы, як пачакалі таго абеду, то на трэці дзень нанач прыехалі! Ёсць што ўспамінаць...

А Божэ мой, Божэ... Калі добра ўсё маладому, а старому ўжо ўсё...

— Кажуць, жыве чалавек, і ўсё кажа, што будзе калісь добра, — падпірае на руках галаву Надзя. — Тагды добра, як малады і здаровы. Нават калі кепска...

— Надзько, слухай: я была і без хаты, у хваіне жыла, калі аддзяліліся. І было добра і ў Марушцы. Рэзалі ўдвох з маім сабе на хацінку, маленькую спачатку зрабілі, а па вайне гэту, большую. І добра было. Але хто жыве — ніхто не думае, што прычакае горш. Сягоння — горш, на другі год будзе лепш. Але каждзюткі так. А як прыйдзе нядуга? Жыць цяжка, дажываць яшчэ цяжэй...

... Я яшчэ выйду і на гуліцу, і ў царкву зайду. На чатырох нагах хаджу, бачыце. Цяпер, як цяпло, выйду на гуліцу. Ідуць гэты хлопцы, ну, што пааставаліся, нежанатыя. Ідуць „ад століка", падпітыя. „Што-лень раскажэце!" — „Я табе паспяваю: «Чые тое целеня, што па полі брыкае? Гэто того гультая, што жонкі ні мае. Заганяйце целеня, ніхай ні брыкае, ажаніце гультая, ніхай жонку мае...»" — „То вы мане гультаём называеце?!" — „Не, але з песні слова ні выкінеш!" Сядзім, смяемся. „То шчэ паспівайце!" — „Дарма? Прынясі шчупака во такого, то шчэ паспіваю!". Пасмяемся, і пойдуць...

**Міра ЛУКША**
*Фота аўтара*

# Выстаўка ікон

У Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы зараз працуе выстаўка ікон, напісаных гайнавянінам Міхалам Юшчуком.

Адкрыццё выстаўкі адбылося 16 красавіка г.г. і супала з першай гадавінай існавання пры бібліятэцы Літаратурнага клуба. У час мерапрыемства дэкламаваліся, між іншым, вершы і празаічныя творы вядомых нашым чытачам аўтараў Янкі Целушэцкага і Славаміра Куліка. Вучні сярэдніх школ дэкламавалі таксама вершы Міхала Юшчука. Сам іканапісец расказаў пра свае першыя крокі ў галіне рэлігійнага жывапісу:

— Першай іконай, якая мяне зацікавіла, была ікона св. Панцеляймона, якую ўбачыў я ў сваёй бабулі Ганны. Аднак бабуля прадала яе, пералічваючы прыбытак на колькасць авечак. Напісаў я аб гэтым верш і пачаў бліжэй знаёміцца са старымі іконамі, а пасля стаў купляць іх, — успамінае свае дзіцячыя і юнацкія гады Міхал Юшчук. — Толькі ў 1985 годзе трапіў я на Грабарку, дзе айцец Лявонцій Тафілюк арганізаваў іканапісныя курсы. Мае мары здзейсніліся і паўстала мая першая ікона — святога Мікалая (можна ўбачыць яе на выстаўцы — А. М.). Веды і ўмеласці, якія перадаў мне, між іншым, айцец Арсеній, манах з Фінляндыі, былі пачаткам маёй вучобы іканапісу. Пасля была нагода пабываць два месяцы ў Маскве, дзе ў цэрквах убачыў я мноства даўніх ікон і сустрэўся з рэстаўратарамі і іканапісцамі Данілаўскага манастыра. Пасля вучыўся ад іканапісцаў, якія выконвалі фрэскі ў саборы Святой Тройцы і сам многа пісаў.

Міхал Юшчук напісаў ужо больш за 300 ікон. Больш 30 работ знаходзіцца ў Францыі, многія ўпрыгожваюць цэрквы Беласточчыны, каля 20-ці апынулася ў парафіі святога Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы. Нядаўна мастак выканаў паліхроміі „Святая Тройца" ў Яблачыне, „Жоны Міраносіцы ля магілы Гасподняй" у саборы Святой Тройцы ў Гайнаўцы і ў прытворы царквы ў Чыжах.

— Ёсць іконы, якія пішуцца хутчэй, але ёсць і такія, якіх выкананне патрабуе цярплівасці і часу. Іканапісам займаюся ў вольны ад прафесійнай працы і сямейных заняткаў час, — кажа спадар Юшчук, які ў 1983 годзе закончыў


*Міхал Юшчук сярод сваіх ікон.*

факультэт філасофіі ва Універсітэце ім. А. Міцкевіча ў Познані і працуе выкладчыкам філасофіі ў Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. — Ікону з выявай некалькіх святых трэба выконваць некалькі тыдняў. Многа папрацаваць трэба было, каб рашыцца выконваць паліхромію на сценах цэркваў, бо тут ужо промаху даваць нельга і трэба, каб усё атрымлівалася за першым разам. Працаваць у цэрквах магу летам, у час канікулаў, а іконы пішу дома штодзень. Разумееццa, працую, бо звыкся і не магу ўжо ўявіць сабе жыцця без іканапісу, хаця прыбытак ад гэтага невялікі. Добра, што зараз прылады ўсе можна купіць, бо раней па блату трэба было ўсе даставаць.

На маё пытанне наконт духовасці іканапісцаў і малітваў перад працай, спадар Юшчук заяўляе, што гэтыя справы патрэбныя, але і на гэта трэба часу. Найважнейшае — штодзённае жыццё паводле Закону.

— Пішу я на падставе даўніх ікон з XV і XVI стагоддзяў, бо XVII і XVIII стагоддзі — гэта ўжо адыход ад канонаў іканапісу ў выніку распаўсюджання ва ўсходняй Еўропе адраджэнскіх плыняў, — паясняе іканапісец. — Таму ў працы неабходная адпаведная літаратура, бо ў нас старыя іконы знайсці цяжка. Некаторыя альбомы купляў я раней, яшчэ ў савецкіх магазінах, іншыя можна знайсці на ўсходзе.

На выстаўцы экспануюцца іконы, якія паўсталі даўней, і тыя, якія Міхал Юшчук пісаў нядаўна: „Хрыстос Збавіцель", „Маці Божая Адзігітрыя", „Уміленне", „Казанская", „Ярaслаўская", „Святы Мікалай". „Святы Якуб" і іншыя. Наведвальнікі могуць убачыць іх кожны дзень, апрача нядзелі.

**Аляксей МАРОЗ**
*Фота аўтара*

# Жаль, бо адыходзяць

Калі я пяць гадоў таму, поўны энтузіязму ды цікавы людзей і свету пачынаў супрацоўнічаць з газетамі ў якасці карэспандэнта, ніколі не падумаў, што так хутка надыдзе пара рэфлексіі аб праміnанні людскога жыцця. Маладых людзей найчасцей не цягне да размовы з пажылымі людзьмі і нават сваіх бацькоў яны між сабою называюць „старымі". Я таксама быў тады не стары, бо было мне пад сорак.

Раней, калі іграў я ў маладзёжным музычным калектыве, выступала з намі маладая спявачка з Гайнаўкі. Вылучалася яна не толькі прыгожым голасам і ігрой на розных інструментах, але і ўмеласцю весці размовы са старэйшымі людзьмі. За вясельным сталом вышукоўвала яна найстарэйшых людзей і доўга з імі гутарыла. Была гэта нетыповая карціна: гутарка прыгожай маладзіцы з бяззубым старэчам. „Аб чым можна так доўга і заўзята гаварыць з чужым чалавекам?" — думалася мне тады.

Прайшлі гады, дарогі ўдзельнікаў калектыву разышліся і згаданая карціна была мною прызабыта. Але ў сталым узросце лёс звёў мяне са старымі людзьмі па прафесійных прычынах. Займаючыся журналістыкай, стаў я спісваць успаміны старых людзей. Ад іх я ўпершыню пачуў пра бежанства. Пачаў я ездзіць па вёсках і вышукоўваць найстарэйшых людзей, каб паспець зарэгістраваць малавядомыя факты з нашай гісторыі. З часам так я вывучыў колішняе жыццё бежанцаў, месцы іх прабывання ў Расіі, што мог нават карэкціраваць некаторыя недакладнасці ў расказах маіх субяседнікаў, калі падводзіла іх памяць.

Пасля размоў са старажыламі адчуваў я сябе быццам бы жыў у дзвюх эпохах — у цяперашні час і ў той вядомы мне з расказаў. А маіх інфарматараў станавілася штораз менш. Бывала, што некаторыя з іх не дачакаліся публікацыі ўспамінаў і прыходзілася мне паведамляць рэдакцыю аб смерці героя расказаў. Некаторыя нават сталі жартаваць, што мае інфарматары найчасцей паміраюць зараз пасля публікацыі. Ад герояў успамінаў у маім архіве застаюцца іх галасы, запісаныя на магнітафонную плёнку, фатаграфіі і артыкулы. Гэта ж захаваны ад забыцця кавалачак нашай гісторыі. Дзякуючы гэтаму становіцца яна вядомай шырэйшаму колу людзей, а перш за ўсё маладому пакаленню.

У мінулым годзе мой знаёмы параіў спісаць успаміны свайго моцна хворага пляменніка. Калі я гутарыў з ім, выглядаў ён цалкам добра, толькі пухліна здраджвала хваробу. Праз два тыдні не было яго ў жывых. Артыкул пра гэтага чалавека з'явіўся ў „Ніве" ў дзень яго пахавання. І тады я, як карэспандэнт, адчуў нейкае вялікае паражэнне, паколькі не паспеў апублікаваць гэты тэкст перад смерцю. На рынку ў Орлі сустрэў я сям'ю нябожчыка, якая з'ехалася з усяе Польшчы на пахаванне. Выкупілі яны ў кіёску ўсе экземпляры „Нівы" і павезлі іх у Шчэцін ды іншыя гарады.

Здараецца, што пасля адной размовы дамаўляюся з героем артыкула на далейшыя гутаркі. Праходзіць нейкі час і аказваецца, што майго ранейшага субяседніка ўжо няма ў жывых. Часта сям'я такога чалавека звяртаецца да мяне, каб перапісаць ім на касету голас нябожчыка. Ажываюць тады ўспаміны пра памерлага, а я адчуваю сябе быццам бы быў членам гэтай сям'і. Аказваецца, што нават калі герой майго артыкула адышоў на той свет, яго голас, дзякуючы запісам, можа пайсці ў эфір. Так было з успамінамі пра арлянскіх яўрэяў у перадачы па тэлеканале Nasza TV.

У мінулым годзе мае беларускія публікацыі паказваліся на выстаўцы ў школе ў Орлі. Прысвечана яна была людзям, якія адышлі ад нас. Наведвалі выстаўку сем'і герояў публікацый. Гэтымі матэрыяламі карыстаюцца вучні і студэнты, таму змясціў я іх у папках-скорасшывальніках, каб было зручна імі карыстацца.

І калі гартаю свае публікацыі, гляджу здымкі іх герояў, і хаця разумею чарговасць жыцця, мне становіцца цяжка на душы, што штораз больш сведкаў нашай гісторыі адыходзіць ад нас. Становіцца мне не толькі сумна, але адчуваю нейкі ўнутраны крызіс. А можа гэта адзываецца мая творчая ўражлівасць?

**Міхал Мінцэвіч**

# Паказанні

— Ну, што вы, высокі суд, як можаце пра такое пытаць ці быў я пакараны за фальшывыя паказанні? Я ілгунствам брыджуся і ўсё выяўлю, як на споведзі. Каб я з гэтага месца не крануўся, калі няпраўду скажу. Я — чалавек спакойны, не скандальнік там нейкі. Нават муху, калі ў хаце злаўлю, і тую нясу за дзверы выпусціць. Цярпеў. Доўга цярпеў, але ўжо і гарбатага ўгнявіла б.

Значыць, было яно так... Жыве ў нашай камуналцы чатыры сем'і, як бы то на вёсцы сказалі — знаходзяцца чатыры гаспадарствы, па дзве насупраць сябе ўздоўж калідора-вуліцы. І так: я з Нінкаю, геадэзістка Клаўдзія, вучыцельства і гэты сабакарнік, што мяне сюды прыцягнуў, каб яго за маю крыўду цягала. Выбачайце, высокі суд, але нервы пускаюць. А каб было па-вялікапанску — у кожнага, апрача нас, свой сабака. Сабака, вядома, істота не дурная, чаго часам нельга сказаць пра гаспадара. Сваім яхканнем хутчэй чым замок хату ад злодзеяў абароніць. А ў нас, высокі суд, кот. Нінка сабак не любіць. „Кот, то кот, — кажа. — З яго прынамсі карысць такая, што мышэй ды пацукоў напалохае". І гэта праўда, але на пацукоў мусіць быць кошка. Ката пацук пераможа. Скажам, гоніць кот пацука, а той брык на спіну і махае кіпцюрыстымі лапамі. Кот на яго, а той, не ў абразу высокаму суду, як драпане па кацячым палавым органе, так і каюк кацішку.

Я не за катамі, бо што з таго, што маеш жывіну ў хаце, калі ніхто яе не бачыць. Часта гляджу ў акно і зайздрошчу тым, у якіх сабакі. Ідзе сабе такі і на ланцужку, скажам, добермана ці бульдога вядзе. Ну, выліты пан. А я што? Ката на павадок вазьму?

Дарэчы, высокі суд, быў гэта нейкі прысвятак ці мо субота. У горадзе наўсцяж свята. Нінка спала, а я, думаю, пайду ранішнія пакупкі зраблю. Адчыніў дзверы ў калідор, паставіў надзейна нагу і як не пакаўзнуся, як не грымнуся з усяго размаху патыліцай аб парог! Толькі і памятаю, што святлістыя пункцікі ў вачах захадзілі. Нінка казала, што вадою адлівала. Ачуняўшы неяк, давай доследы рабіць. Не першы ж раз выходжу са сваёй кватэры... А тут усё роўна быццам бы нехта за нагу пацягнуў або на лёдзе сам пакаўзнуўся. Гляджу на падэшву чаравіка, а ён у памёце. Я за парог — і там размазана. Выпадковае здарэнне, думаю, шаруючы ганучаю калідорную падлогу, ці спецыяльны замах на маё жыццё? А тут якраз геадэзістка Клаўдзія са сваім пудзелем на шпацыр выходзіць. Я ёй і давай расказваць пра сваю крыўду. А яна не задумваючыся адрэзала: „Ну, вядома, чалавек гэтага не зрабіў, а напэўна нейкі сабака-валацуга. Я свайго на ланцужку выводжу. Але ці ўсе гэтак робяць? Мала гэта бяздомных цягаецца..." І мне тут пасвятлела. Чужы знадворку дзвярэй у калідор не адчыніць, дамафон жа ёсць. Не націсне лапаю кнопку і не папросіць, што, моў, адчыніце, бо я за патрэбаю. І давай я ў прыватнага следчага гуляць. Гадзіны тры сядзеў у кватэры з вухам прыложаным да калідорных дзвярэй і нічога. А толькі адлучыўся на нейкае паўгадзіны, вяртаюся з газетай — а пад парогам зноў, не прымяраючы, у прыгаршчы не возьмеш. Гляджу, а на панадворку Цыган, гэтага гіцля, вольна бегае. Дык ты так, думаю, то пабачыш, што цяпер заспяваеш. Клікнуў на Нінку, каб сведкаў збірала, а сам да яго ў дзверы стукаю. Выйшаў. Я яму і кажу, што, моў, твой сабака ў мяне пад дзвярыма прыбіральню зрабіў.

— Тааак... мой Цыган? — кажа. — Не можа гэта быць. Пачакайце, вазьму акуляры.

А як жа, выходзіць у акулярах як дырэктар нейкі. Падышоў, паглядзеў згары на памёт, пакруціў галавою і выняў з кішэні насоўку. Разаслаў яе на падлозе ды стаў на калені, абапёрся на руках і нахіліўся носам як ніжэй. Панюхаў. Прыпадняў галаву ды звяртаючыся да вучыцельства і Клаўдзіі, якая з пудзелем на руках побач стаяла сказаў:

— Не, гэта не мой. Запах не той. Мой такіх прадуктаў не спажывае.

Мне аж кроў у галаву ўдарыла. Ах ты, гад, думаю, а сам, як мага спакойна, гавару: „А ты паспрабуй яшчэ раз праверыць. Можа пранюхаўся". Ён, праўда, паслушна схіліўся над памётам, а я яго тады за карак ды мордаю ў самую сярэдзінку, аж па баках раз'ехалася! Нюхай добра, гавару. Запамятай. Вось і ўсё, высокі суд. Ці ж я яго зняважыў? Калі я ўступіў ці я яго ў суд падаваў. А чым жа мой бот ад яго рыла розніцца. І тое, і тое трэба адмываць. Бот то мой новы быў.

**Міхаль Пашкоўскі**

# Kultura pod strzechy

**Pierwsza edycja konkursu „Kultura lokalna" rozstrzygnięta**

Fundacja im. Stefana Batorego przyznała 134 dotacje w ramach konkursów „Kultura lokalna" i „Projekty dla mniejszości narodowych". W województwie podlaskim wsparcie finansowe otrzymały m.in. projekty Białoruskiego Zrzeszenia Studentów w Białymstoku, Miejskiego Ośrodka Kultury w Sejnach, Białostockiego Teatru Tańca, Państwowego Teatru Lalek w Łomży, Muzeum Północno-Mazowieckiego w Łomży, Gródeckiego Ośrodka Kultury, Fundacji Wierszalin z Supraśla, Stowarzyszenia Społeczno-Kulturalnego „Oś" z Augustowa, Domu Kultury w Łomży, Stowarzyszenia „Uroczysko" w Supraślu, Stowarzyszenia Kulturalnego — Teatr Efemeryczny w Suwałkach, Wojewódzkiej Biblioteki Publicznej w Łomży, Stowarzyszenia Literackiego w Suwałkach, Bractwa Młodzieży Prawosławnej w Polsce, Regionalnego Ośrodka Kultury i Sztuki w Suwałkach.

Ogółem na konkurs napłynęło ponad trzysta wniosków z całej Polski. W przeważającej mierze finansowane przez Fundację imprezy i wydarzenia kulturalne będą się odbywać na terenach tzw. kulturalnie zaniedbanych, w małych miastach, miasteczkach i wioskach.

„Można stwierdzić, że projekty, które zyskały wsparcie Fundacji — zgodnie z naszymi intencjami — wzbogacą ofertę kulturalną Polski powiatowej i gminnej. Statystycznie rzecz ujmując moglibyśmy więc uznać, że odnieśliśmy sukces", — mówi Piotr Halberstat, dyrektor Programu Kulturalnego. — „Ale tak nie jest. Konkurs potwierdził wyrażaną wcześniej przez nas opinię, że nie ma w tej chwili w kraju organizacji, które w sposób odpowiedzialny mogłyby stymulować działalność kulturalną poza wielkimi miastami, lub takich, które podjęłyby się — otrzymawszy poważną subwencję — wspierać pracę kulturalną mniejszych instytucji i fundacji prowincjonalnych".

Napływające z całego kraju propozycje były do siebie niezwykle podobne. — Ogromna ilość wnioskodawców prosiła o sfinansowanie festynów, w trakcie których występom zespołów folklorystycznych towarzyszyły targi rzemiosła, konkurencje sportowe (np. mecz „żonaci — kawalerowie", wyścigi w workach, przeciąganie liny, itp.), turnieje gmin (także znane z telewizji „turnieje miast"), kiermasze — podsumowuje Piotr Halberszat. — Były wnioski, w których wnioskodawcy prosili o dotowanie festiwali i innych „spotkań z kulturą". Ich propozycje ograniczały się niemal wyłącznie do tańców ludowych, dożynek, „święta ziemniaka" i występów orkiestr dętych. W większości tych propozycji „kultura" kojarzy się z ludową zabawą i „cepeliadą", przeciąganiem liny, kiermaszem z piwem i cukrową watą...

Wśród zgłoszonych projektów znalazły się jednak i takie, które oceniono bardzo wysoko, m.in.: organizowany przez cieszyński oddział Solidarności Polsko-Czesko-Słowackiej „Przegląd Filmów Czeskich", koncerty festiwalowe w Woli Rzeczyckiej, cykl „Kresy zachodnie" zgłoszony przez Ośrodek Teatralny Stacja „Szamocin", konkurs pamięci polsko-żydowskiej prowadzony przez Miejskie Centrum Kultury w Płońsku, czy doskonały projekt Urzędu Gminy w Niepołomicach pt. „W ogrodach muzyki".

Fundacja zamierza więc dalej dotować, z pewnymi modyfikacjami, polską kulturę lokalną. Następny termin konkursu „Kultura lokalna" jest wyznaczony na 1 września br. Do udziału w nim zaproszone są powiatowe i gminne samorządy, instytucje budżetowe, lokalne ośrodki kultury, organizacje pozarządowe, a także nieformalne grupy twórców i artystów.

Fundacja im. Stefana Batorego jest jednym z największych sponsorów polskiej kultury. Przez 5 lat działalności Program Kulturalny Fundacji im. Stefana Batorego udzielił ponad 1 200 dotacji na sumę ok. **8 mln złotych**. Fundacja wspierała działalność artystyczną i kulturotwórczą w dziedzinie sztuk pięknych, muzyki, twórczości teatralnej i filmowej, pomagała polskim artystom w wyjazdach na prestiżowe festiwale i konkursy organizowane za granicą. Przyznawała także stypendia uzupełniające dla polskich studentów kształcących się w zagranicznych uczelniach artystycznych. Warto także wspomnieć o prowadzonym przez Fundację internetowym Katalogu Czasopism Społeczno-Kulturalnych, który zawiera podstawowe informacje o ponad 200 publikacjach z całej Polski (adres internetowy: http:/www.batory.org. pl/katalog).

Szczegółowe informacje o zasadach wspierania inicjatyw kulturalnych oraz warunki składania wniosków uzyskać można pod adresem:

**Program Kulturalny Fundacji im. Stefana Batorego,**
**ul. Flory 9 (IV p.), 00-586 Warszawa,**
**tel. (022) 48 80 55;**
**e-mail: kultura@batory.org.pl**
**(Piotr Halberszat, dyrektor Programu Kulturalnego)**

# І я не сумую

**Адгалоскі**

У „Ніве" № 15 ад 11 красавіка 1999 г. прачытаў я артыкул Мікалая Панфілюка „Па камуне я не сумую". Сапраўды ёсць у ім доля праўды. Трэба ў гэтым месцы прыгадаць другі прыход Гамулкі да ўлады і тагачасную адлігу. Тады спынілася насільная калектывізацыя, а нерантабельныя калгасы сталі ліквідавацца. Памятаю як раней прыйшоў да нас інструктар Паветовага камітэта ПАРП Лявон Эфенберг. Мы з бацькам якраз малацілі ў клуні збожжа, а ён загадаў запрэгчы каня і ехаць у калгас у Трасцянку вазіць збожжа. Бацька прагнаў яго. Помню таксама размеркаванне будаўнічых матэрыялаў і сельскагаспадарчых машын гмінная адміністрацыяй. Хацеў я купіць трактар, назбіраў грошай і напісаў прашэнне ў гміну. Але пакуль мне яго прызначылі, трактар „Уладзімірац" падаражэў і прыйшлося плаціць за яго намнога даражэй.

Памятаю таксама ранейшы пункт скупкі ў Нарве, калі прымалася па 200 штук свіней і 70 кароў, хаця сялянам плацілі мала. Цяпер, калі на пункце скупкі акажацца малавата жывёлы, класіфікатар не прыме ніводнай, бо яму не аплачваецца заказваць транспарт. Праўда, раней у нас усё купляў Савецкі Саюз, быў збыт і селяніну тады лепей жылося.

Цяпер, калі ўлады абмежавалі гандаль з усходам, абанкруціліся многія малыя прадпрыемствы, галоўным чынам кравецкія фірмы, купцы сталі зачыняць ларкі на базарах. У нас раптам аказаўся лішак мяса, а ў той час праз Польшчу ў Расію безупынна едуць аўтафуры з англійскім, нямецкім і французскім мясам.

У выніку рынкавай гаспадаркі ўпалі многія буйныя прадпрыемствы. Напрыклад, беластоцкія „Фасты" звальняюць сваіх шматгадовых работнікаў. А што рабіць рабочаму, якому да пенсіі засталося яшчэ 10 гадоў? Цяперашнія работадаўцы разглядаюцца перш за ўсё за маладымі працаўнікамі ва ўзросце да 30 гадоў.

Я не сумую па мінулым, але і сённяшні дзень не настройвае аптымістычна, паколькі навокал бачна многа нявырашаных пытанняў, якія ўскладняюць жыццё простаму чалавеку.

**Мікалай Лук'янюк**

# Гэта не палітыка

У адной з беларускіх радыёперадач дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікола Бушко пакрытыкаваў Фестываль „Беларуская песня '99". Паводле яго, мерапрыемства адбываецца ў неадпаведнай зале (у філармоніі лепшыя ўмовы чым у гарнізонным клубе), для такога мерапрыемства непатрэбна гукаўзмацняльная апаратура, а ўся імпрэза — усяго палітызаваная паказуха.

Паводле мяне, гэта тэндэнцыйнае выказванне з мэтай дыскрэдытаваць арганізатараў фестывалю. Беларускія культурныя мерапрыемствы наогул праводзяцца на мізэрныя фінансавыя сродкі і перанясенне фестывалю ў філармонію павысіла б кошты несувымерна да атрыманых сродкаў. Гардэробы ў філармоніі таксама значна меншыя чым у гарнізонным клубе. Для членаў журы, спецыялістаў высокага класа, месца правядзення конкурсу не павінна быць перашкодай у вылучэнні пераможцаў.

Не згаджаюся, што фестываль беларускай песні з'яўляецца ўсяго палітызаванай паказухай. Лічу што гэтыя словы крыўдзяць арганізатараў, выканаўцаў і членаў журы, ігнарыруюць іх уклад у пашырэнне беларускай культуры. Гэта не паказуха, а толькі мастацкае мерапрыемства высокага рангу. Доказам гэтаму хай будзе шматлікая публіка і прысутнасць прадстаўнікоў улад. Гэта не фестываль у Аполі ці Сопаце, але спецыфічная імпрэза. Па-мойму, гэта вельмі добра, што ў беларускіх фестывалях хочуць прымаць удзел прадстаўнікі цэнтральных улад Польшчы і Беларусі. Гэта не палітызаванасць, гэта рэальнасць такога тыпу фестываляў. Удзел прадстаўнікоў улад павышае ранг фестываляў, робіць іх больш аўтарытэтнымі, развівае нашу беларускую свядомасць.

Такія мерапрыемствы нельга праводзіць без гукаўзмацняльнай апаратуры, бо беластоцкія залы не гарантуюць адпаведнай акустыкі. Мікрафонамі карыстаюцца найбольш вядомыя артысты і калектывы.

Падводзячы вышэйсказанае сцвярджаю, што аўтару неабгрунтаваных крытычных слоў не ўдалося дыскрэдытаваць арганізатараў фестывалю. Прыкра таксама, што аўтар радыёперадачы не паклапаціўся прадставіць пункт погляду арганізатараў імпрэзы. Ацэнка мерапрыемства належыць гледачам, а я, як адзін з іх, ацэньваю яго станоўча.

**Канстанцін Масальскі**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Мне прыснілася, што быццам мы збіраліся пакласці майго ўнука ў бальніцу. Раптам заўважаю, што няма маіх ботаў, бо нейкія хлопцы пажартавалі і схавалі іх. Я іх шукаю.

Майго ўнука сапраўды абяцалі пакласці на доследы ў Цэнтр здароўя дзіцяці ў Варшаве. Як ты думаеш, Астроне, мо з гэтага нічога не выйдзе? Ты ж, памятаю, пісаў, што боты ў сне прадвяшчаюць падарожжа, а мае боты прапалі...

**Зіна**

Сніцца мне, Астроне, што я ў царкве. Стаю перад царскімі варотамі. Яны адкрытыя. У дзвярах, быццам у паветры, вісіць залаты крыж. Гэты крыж мне запамятаўся найбольш. Добры гэта сон, ці дрэнны, Астроне?

**Марыя**

Зіна! Што датычыцца твайго сну, дык мо ты яго і адгадала сама. Боты сапраўды абазначаюць нейкае падарожжа. У залежнасці ад таго, якія яны: новыя, прыгожыя, мяккія ці старыя, парваныя, брудныя, цвёрдыя — падарожжа будзе добрае ці кепскае. У тваім сне боты зусім прапалі. Мо нехта і пажартаваў, але ботаў няма і ты шукаеш іх. Так што можа ўсякае здарыцца. Мо ты збіраешся ў падарожжа (з унукам, у варшаўскую бальніцу), а з гэтага пакуль што нічога не выйдзе. Выглядае, што нехта табе перашкодзіць у падарожжы, так як і боты твае схаваў у сне. Мо і „ходаў" у той Цэнтр здароўя дзіцяці яшчэ трэба будзе пашукаць, як ты шукаеш свае боты.

Марыя! Твой сон даволі супярэчлівы. Ты была ў царкве і гэта магло б прадвяшчаць нейкі сум ці расчараванне. Але ж царскія вароты былі адчынены, і гэта можа абазначаць, што ты дасягнеш поспеху пасля расчараванняў. Крыж мог бы прадвяшчаць таксама смутак і крыўду, але ж ён быў залаты, а золата сніць — так і чакай поспеху ці багацця.

**Астрон**

# Неакуратна паставіліся

Штогод вясною чаромхаўская гмінная адміністрацыя праводзіць уборку смецця і непатрэбных адпадкаў з сялянскіх сядзібаў. Так было і ў гэтым годзе.

У канцы сакавіка і пачатку красавіка працаўнікамі гміны былі назначаны тэрміны для паасобных вуліц. У назначаны дзень трактарам заязджалі ў раней указанае месца, каб забраць смецце. І што аказалася? З усяго пасёлка не нагрузілі нават адной фуры!

Пэўна падумаеце, што чарамшукі дбаюць пра чысціню сваіх панадворкаў? Гэта праўда. Але ёсць і іншая, больш сумная з'ява. Гэтае смецце замест трапіць на гмінную звалку, раней вывезена было ў неадпаведнае месца. Хопіць праехацца па лесе на акраінах Чаромхі і паглядзець, што там робіцца. Страшна! Усюды поўна смецця і непатрэбнага лому!

22 красавіка адзначаўся Сусветны дзень Зямлі. Многія экалагічныя арганізацыі і школьная моладзь у гэты дзень праводзілі акцыю прыбірання наваколля. І каб аблегчыць работу школьнікам і эколагам, мы павінны задбаць пра тое, каб смецце трапляла на месца звалкі, а не раскідаць яго абы-як. Варта пра тое памятаць!

**(ус)**



# Помнік д-ру Чарнецкаму

Беларускае гістарычнае таварыства звяртаецца з просьбай аказаць фінансавую дапамогу ў пабудове намагільнага помніка беларускаму нацыянальнаму дзеячу д-ру Міколу Чарнецкаму на праваслаўных могілках у Беластоку-Выгодзе.

Асвячэнне помніка плануецца ў сотую гадавіну з дня нараджэння героя, у канцы мая бягучага года.

Мікола Чарнецкі нарадзіўся 22 мая 1899 г. у вёсцы Малыя Азяраны каля Крынак. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Карлавым універсітэце ў Празе. З той пары актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальны рух. Быў блізкім сябрам паэта Уладзіміра Жылкі, супрацоўнікам Тамаша Грыба, настаўнікам беларускай мовы ў беларускай гімназіі ў Клецку. У пачатку 1944 г. быў забіты польскім падполлем непадалёк Беластока.

Грашавыя ахвяраванні можна пералічваць на рахунак:

**Białoruskie Towarzystwo Historyczne**
**PBK, S.A. w Warszawie I/O Białystok**
**11101154-210988-2700-1-61, „Pomnik".**



**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Новая вясна, новая надзея...*

Фота Міры ЛУКШЫ

## Пра кошку

З тэлевізараў часта заахвочваюць нас, а дакладней гаворачы жанчын, быць сабою. Нашы паважаныя чытачкі і чытачы пэўна зараз думаюць, што „быць сабою" абазначае тое, да чаго заахвочвае адзін з нашых тут, а дакладней гаворачы — не тут, выдатных класікаў. Але гэта не вельмі так, бо наш класік заклікае напр. чытаць нашу дванаццатую старонку. А тэлевізары, якія служаць нам дзеля таго, каб мець на што глядзець, рупяцца пра тое, каб глядзець было прыемна; што каму рупіць, той пра тое і жупіць. І вось тэлевізарнае „быць сабою" абазначае мазанне сябе нейкімі мазямі, каб некаму было прыемна нас бачыць.

Пра мазі людзі рупіліся даўно — калі яшчэ нават найпразорлівыя фантазёры пра тэлевізары і не думалі. Ужо ў Старажытным Егіпце тадышня-тамашнія модніцы чысцілі зубы пемзай і мазалі бровы і вейкі сажай. З ходам стагоддзяў касметычныя рэчывы выганчаліся, а алхімікі і хімікі вынюхалі араматы ў раслін і жывёл, напр. мускус у кабаргі. А ў мінулым стагоддзі французскія вучоныя заняліся і навуковым вывучэннем прываблівaючых сродкаў. А варта было, бо на гэта грашавітыя грошай не скупяць.

Але што б было, калі б не было Амерыкі? Страх і думаць... Вось нядаўна, у Амерыцы менавіта, выйшла кніга напісаная былою манекеншчыцай Дыянай Айранс; аўтарка раскрывае ў ёй самыя сакрэтныя сакрэты прыгажосці, якімі карысталіся самыя вядомыя прыгажуні: гэта не нейкія дарагія крэмы і трэнажы, а танныя дамашнія адыходы. Сіндзі Кроўфард, выпіўшы рана каву, захаваную гушчай націрала сабе бёдры — каб не таўсцелі. Ева Габар трымала ў цяпле банан пакуль не счарнеў, а тады часткай яго мазала знутры ліфчык, каб не ападалі грудзі, а астаткам шмаравала яшчэ твар. Мнагадзетная Джэры Хол, жонка Міка Джэгера, свой точаны стан захавала мажучы жывот свіным салам, якое засцерагае ад расцягвання скуры.

Акрамя згаданых прыкладаў Дыяна Айранс раскрывае і другія сакрэты таннай прыгажосці. Калі твар патрабуе чысткі, трэба памазаць яго аўсянаю кашай. Калі памутнелі валасы, трэба іх прамыць гарэлкай. Калі ў вас ад недаспання падпухлі вочы, трэба скуру вакол іх памазаць кропелькай „мазі" ад... гемароя... Дарэчы, аўтарка падручніка па прывабнасці адкрыта раскрыла, што розныя маскі з траў і прыроднай гразі, гэта разведзены кашэчы памёт; касметолагі вывучылі, што кашэчыя экскрэменты выгладжваюць скурныя поры. Гэтае рэчыва, разведзенае з другімі і загорнутае ў шыкарную ўпакоўку прадаецца і як „стопрацэнтная гразь Мёртвага мора".

Невядома мне, што натхніла Дыяну Айранс напісаць скандальную ў пэўным сэнсе кнігу. Магчыма, што кіруючыся заахвочваннямі згаданага нашага класіка, прачытала яна і рэцэпт другога нашага класіка: калі хочаш мець вусы як венік, кладзі на губу ўгнаенні. Тым, хто не верыць у паспяховасць прыведзеных рэцэптаў, раю падглядзець, як выстройваецца кошка. А якія ў яе вусы!

**Адам Маньяк**

<u>**Фрашкі пра нашых**</u>

## Дыялектыка

Мастадонты стаяць моцна
На „дыялектычных" слупах.
Хоць піхні іх — то не гопнуць,
Хоць падкоп рый, дай у лупу,
Дык рыдлёўка трэсне ў шчэрбах,
Нагу зломіш, пралетарый!
Мастадонт — герой пад неба
Артадоксаў-каментарыяў.

**Вандал АРЛЯНСКІ**



*Хуткі марш у Еўропу.*

Фота Міры ЛУКШЫ

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. паўвостраў побач Обскай дугі, 8. бразільскі штат з Фарталезай, 9. „купалаўскі" вадаспад у Фінляндыі, 10. стромая скала, 11. горад на поўначы Башкірыі, 13. прылада для шыцця, 15. старажытнагрэчаскі бог медыцынскага мастацтва, 16. Фідэліо, нямецкі кампазітар (1891—1968), 20. валакіта, 22. Хуліо, аргенцінскі пісьменнік (1914—84), 23. вадкі метал, 27. горад на паўднёвым захадзе Венгрыі, 29. народная эпічная песня, 30. галаўны ўбор рымскага папы, 31. пеністы напітак з ячменнага соладу і хмелю, 32. хваробатворчы пачатак, 33. асоба, у якой абароне ўзбуджаецца справа, 34. Міклош, венгерскі рэжысёр (нар. у 1921 г.).

**Вертыкальна:** 1. Федэрыка, італьянскі кінарэжысёр напр. фільма „Салодкае жыццё" (1920—93), 2. распалены попел, 4. завея, 5. старажытнагрэчаскі скульптар (4 ст. да н.э.), 6. „сябра" кларнета і флейты, 7. Поль, французскі антраполаг (1824—80), 12. старажытнагрэчаскі філосаф і паэт (565—473 да н.э.), 14. бацька медыцыны (460—377 да н.э.), 16. сапраўдная падзея, 17. жыллё барсука, 18. вузлавае пісьмо інкаў, 19. кітайская грашовая адзінка, 21. Пётр, польскі прэм'ер-міністр пры Герку (1909—92), 24. порт у Італіі пры мяжы са Славеніяй, 25. трыгаловы сабака, які пільнаваў царства Аіда, 26. Георг, нямецкі матэматык (1826—66), 27. дзяржава, у якой расплачваюцца юанямі, 28. дрэва сямейства папаявых. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 13 нумара**

**Гарызантальна:** касета, апостал, Абавян, Чачэрск, апарат, нектар, Уідобра, вакуум, браднік, клічка.

**Вертыкальна:** калчан, ворчык, старка, клака, слава, Таяма, падрад, Рубенс, траска, есаул, тлушч, румба.

Рашэнне: **Якуб Колас**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## Кароткі курс параноі

**Вялікасць і слепата**

Дэмакрыт, каб не адцягвала ўвагу мітусня, асляпіў сябе. І стаў вялікім. А ў нас слепнуць ад маніі вялікасці.

**Тытулы і прэзідэнты**

На ўзняўшымся з гнілля Захадзе навуковыя тытулы прысвойваюць вучоным, а ў нас — невукам. Хваліўся ж Валэнса, што ён за сваё жыццё не прачытаў ніводнай кніжкі. А доктар усіх навук. І стаў прэзідэнтам.

— Дыплом дыпломам, а магістр магістрам, — сказаў мудра Санюта Квас і, падпіраючыся класікам, дадаў: — *I basta!*

**Прагрэс і цемра**

У Заіры адно з плямёнаў народнасці балуба вызначае годнасць і каштоўнасць нявесты па колькасці мужчын, якія аваладалі ёю да вяселля.

А, кажуць, неразгорнуты край, дзікуны! І спасцігі закон дыямату (пераход колькасці ў якасць) і ўводзяць пераварот у мэтанакіраваную дзейнасць чалавека.

А ў нас нарадзіла малодка двух хлопчыкаў: аднаго беленькага, а другога чорненькага. Муж пачаў яе ўсяляк лаяць, біць. А яна адно:

— Не вінавата я, ні з кім больш не гуляла...

А ён сваё:

— Вінавата! — і лупіць.

Аж суседкі ўразумілі раўніўца:

— Яе маці гуляла з неграм. Вось дачцы і перадалося.

....

І з гэткім грузам геннага ідыятызму ў новую Еўропу? Балубы нас засмяюць.

Хачу ў Балубію!

**Сідар Макацёр**

PS. Міжбугаодэрскі суперідыятызм: пабудова помніка ў гонар ненароджаных бахуроў.

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:***

## Хто мы такія?

Дэмакрыт — вялікі грэк,
Праз вякі ішоў у наш век.
А мы — усё наадварот —
Стаім ля яго варот.

Веды *West* увапрог у рэйд,
Там навука водзіць рэй.
А мы — усё наадварот —
Невукам глядзім у рот.

У Балубіі ўжо рай,
Колькі хочаш, Ева — май.
А мы — усё наадварот:
— Не чапай, душа за плот!